
Барбара Гаральчук ➔3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714


Аляксей Рыжынскі ➔5

http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

№ 47 (3158) Год LXI | Беласток, 20 лістапада 2016 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)



# Місія: ахова драўлянага дома

**За намі ўжо дванаццаты выпуск конкурсу на лепшы захаваны помнік вясковага драўлянага будаўніцтва ў Падляшскім ваяводстве. Рэй зноў вялі Гайнаўшчына і Бельшчына.**

Сядзіба з вёскі Звяржаны на Сакольшчыне, якая належыць Мажэнне і Пятру Гарштынскім, выйграла галоўны прыз у сёлетнім выпуску гэтага конкурсу. Падвядзенне вынікаў і ўручэнне ўзнагарод і прызоў адбылося 6 лістапада ў Музеі сельскай гаспадаркі імя кс. Кшыштафа Клюка ў Цеханоўцы. У цырымоніі прынялі ўдзел пераможцы конкурсу, кіраўніцтва музея ў Цеханоўцы, члены журы, а таксама прадстаўнікі рэгіянальнага самаўрада.

— Клопат за такое каштоўнае дабро, якім з'яўляюцца аб'екты драўлянага дойлідства, прычыняецца да таго, што такую вялікую спадчыну ўдаецца захаваць і ўратаваць для будучых пакаленняў, — сказала дырэктарка Музея сельскай гаспадаркі Дарота Лапяк падчас цырымоніі ўзнагароджання пераможцаў і паведаміла, што на працягу дванаццацігадовай гісторыі конкурсу на Падляшшы ўдалося дакументаваць 824 драўляныя будынкі.

Віцэ-маршалак Мацей Жыўна падкрэсліў, што гэта не так проста клапаціцца аб гістарычным будынку, дбаць аб захаванне яго характару, у той жа час пражываючы ў ім. Гэта для ўладальнікаў вялікі выклік:

— Аднак, можна і варта клапаціцца пра такі родны скарб і жыць у ім. У гэтых гістарычных будынках ляжыць гісторыя нашай краіны, нашага рэгіёна, а таксама нашы асабістыя перажыванні.

— Усведамленне каштоўнасці гістарычных будынкаў на падляшскай вёсцы сярод яе жыхароў павялічваецца, — звярнуў увагу член Маршалкоўскай управы Стэфан Краеўскі.

— Падляшская вёска змяняецца, мадэрнізуецца, аднак гэта зусім не азначае адмовы ад таго, што з'яўляецца гістарычнай каштоўнасцю, што прыгадвае наша каштоўнае мінулае.

— Ідэя гэтай ініцыятывы застаецца актуальнай, — адзначыў маршалак Падляшскага ваяводства Ежы Ляшчынскі. — Ахова драўлянага дойлідства, прасоўванне ведаў пра прыгажосць і каштоўнасці сельскага ландшафту і пераконванне гмінных улад і ўладальнікаў аб'ектаў, каб клапаціліся пра іх стан, гэта ключавыя асновы гэтага важнага мерапрыемства, якое прынялі на сябе Музей сельскай гаспадаркі імя кс. Кшыштафа Клюка ў Цеханоўцы з Маршалкоўскай управай Падляшскага ваяводства. Колькасць ацэненых заявак да конкурсу да гэтага часу пацвярджае веру ў рацыю гэтага праекта. На працягу многіх гадоў удалося сабраць неацэнную дакументацыю больш за 800 аб'ектаў, што з'яўляецца каштоўным зыходным матэрыялам для даследавання для будучых пакаленняў: выяўлена шмат жамчужын сельскай драўлянай архітэктуры нават з дзевятнаццатага стагоддзя. Падляшскае ваяводства з'яўляецца абшарам фармаваным культурна і ментальна рознымі нацыямі, рэлігіямі і супольнай гісторыяй яго жыхароў. Што тычыцца архітэктуры, з поўнай упэўненасцю можна сказаць, што імпазантна фармуецца на нашай тэрыторыі сельская драўляная забудова. Тут можна знайсці незвычайныя драўляныя хаты, старадаўнія гаспадарчыя будынкі, грамадскія будынкі, сельскія і дворскія сядзібы. Непаўторную атмасферу гэтых месцаў ствараюць таксама дружалюбныя, гасцінныя гаспадары — прыватныя ўласнікі, жыхары вёсак і мястэчак, гмінныя ўлады. Тым не менш, гэты вобраз паступова забываецца. Каб не дапусціць гэтага, арганізатары ўзняліся за захаванне мясцовай спадчыны, пастаянна заахвочваючы жыхароў нашага ваяводства да ўдзелу ў конкурсе, і тым самым падтрымання асаблівай лучнасці са сваім родным месцам.

Сёлета ацэньвалася 37 заявак ад 25 гмін Падляшскага ваяводства. Журы ў дзесяць асоб пад старшынствам намесніцы дырэктара музея ў Цеханоўцы Ганны Вісьнеўскай узнагародзіла I прызам сядзібу ў вёсцы Звяржаны, 5, Сідранскай гміны (6000 зл.). II месцам (3000 зл.) хату ў Тыкоціне — уласнасць Ядвігі і Генрыка Беляўцаў; хату ў Сацах, 53, Нарваўскай гміны — уласнасць Марыі Цвікоўскай; сядзібу ў Барысаўцы, 48, Гайнаўскай гміны — уласнасць Міраслава Мацеюка ды перанесеную хату ў Цеханоўцы — уласнасць Барбары Працэр-Дытрых. Трэцім прызом (1600 зл.) узнагароджаны: хата ў Сацах, 52, Нарваўскай гміны, уласніца — Вера Міхальчук; хата ў Новай Пшэрослі — уласніца Уршуля Пшытула і хата ў Дзяцінным, 35, Боцькаўскай гміны — уласніца Магдаліна Стопа. Вылучаны будынкі (500 зл.): хата ў Альхоўцы, 8, Нараўчанскай гміны — уласнасць Крыстыны Байбак; сядзіба ў Сацах, 61, Нарваўскай гміны — уласнасць Тамары Ляшчынскай; хата ў Глодах, гміна Пэрлеева — уласнасць Ганны Марчук; хата ў Хайнове, гміна Тшцянне — уласнасць Здзіслава Дамброўскага; хата ў Альхоўцы, 35, Нараўчанскай гміны — уласнасць Зінаіды Скепка; хата ў Вульцы-Выганоўскай, 43, Арлянскай гміны — уласнасць Крыстыны Ваўжынюк; хата ў Сейвах, 26, гміна Пуньск — уласнасць Марыянны Бялэцкай; хата ў Паўлах, 11, Заблудаўскай гміны — уласнасць Любы Якацюк; хата ў Ёськах, 23, гміна Новыя Пякуты — уласнасць Крыстыны Алендзкай; свірны ў Пратасах, 45, Заблудаўскай гміны — уласнасць Ядвігі і Вальдэмара Рэгуцкіх.

— Гэта не штука разбурыць і паставіць нанова, — кажа гісторык-аматар Пётр Гарштынскі (працуе ў пагранічнай ахове, жонка — настаўніца). — Мы дом у Звяржанах стараліся аднавіць так, каб змяніць яго як найменш. Ён — у найлепшай традыцыі хат з Вялікага Княства Літоўскага. Пакінулі мы ў ім падвойныя вокны, стогадовыя падлогі, дзверы, кафляную печ і шмат дробных элементаў. Дом пабудаваны ў 1919 годзе, а пабудовы на сядзібе — з XIX стагоддзя. Нялёгка было яго нам купіць, што ўдалося ў 2008 годзе. Хаця дом стаяў пусты сем гадоў, уласнік не хацеў яго прадаць абы-каму. Правеў дакладную разведку. Мусілі мы расказаць пра сваю сям'ю на сто гадоў назад. Я спаслаўся на сям'ю Нарушэвічаў, з якой паходзіла мама майго дзеда. Солтыс інфармацыю праверыў. І так трапіў нам у рукі дом, пабудаваны Магдаленай і Вінцуком Федаровічамі. Аказалася, што пад нашу апеку дастаўся таксама вясковы крыж. На сядзібе ёсць яшчэ стадола, свіран і гаспадарчы будынак, пры якім стаіць калодзежны жораў. Інтэр'ер хаты стылізаваны на дварок, частка мэблі — арыгінальная, частку дакупілі.

Журы, прызначаючы першы прыз у конкурсе, дацаніла таксама клопат цяперашніх гаспадароў за захаванне ўсіх арыгінальных дэталяў, такіх як кафляныя печы, здобленыя мазэрункам (аздобленнем пад драўніну) двухкрылыя вонкавыя дзверы, аздобленую такой самай тэхнікай сцяну, пакрытую драўлянай абіўкай. У хаце захаваны таксама сямейныя памяткі былых уласнікаў, іх фатаграфіі і граматы — яны вісяць на сценах. Усе гаспадарчыя будынкі — у вельмі добрым тэхнічным стане, цяпер выконваюць ролю складоў.

Міраслаў Мацяюк з Барысаўкі прыехаў на завяршэнне конкурсу з жонкай і дзецьмі. Іх сядзіба складаецца з хаты, стадолы, гаспадарчага будынка і свірна. Дом пабудаваны каля 1954 года. Сцены хаты ашаляваны дошкамі. Будынак аздоблены сучасна выкананымі аздобнымі дэталямі на вуглах і над вокнамі. Двухскатны дах крыты цэментавай дахоўкай. Хата складаецца з трох пакояў, кухні, сяней і лазенькі. У кухні — кафляная печ з дабудаванай ляжанкай. Абсталяванне хаты сучаснае, з цікавейшай мэблі — скрыня на колцах. На рагу аднаго пакоя — святы кут, аздоблены вышыванымі ручнікамі. Да шыракафронтавага свірна дабудаваны гараж, унутры гэтага будынка знаходзіцца таксама ткацкая майстэрня — на кроснах тчэ жонка гаспадара.

Дамы-пераможцы атрымліваюць адмысловую таблічку аб тым, што з'яўляюцца яны помнікам даўніны. Найбольш так адзначаных хат — у Чыжах. Старадаўні дом, у якім жывуць наступныя пакаленні будаўнікоў — сапраўды жывы.

**Тэкст і фота Міры ЛУКШЫ**





# Амерыканскі выбар

Такіх разгубленых твараў я не бачыў даўно. Тэлекаментатары большасці сусветных каналаў выглядалі ў гэты дзень як нечыстоты з'еўшы. Гэта ж трэба! У адзін голас прадказвалі перамогу аднаму кандыдату, а выйграў другі. Усе каментарыі, усе хатнія загатоўкі былі падрыхтаваны пад перамогу Клінтан, а перамог Трамп.

Застаецца толькі пасыпаць галаву попелам і прызнаць сваю некампетэнтнасць. Але ж не, гэтыя не здаюцца. Яны ўхапіліся за вулічныя акцыі тых, хто зусім нядаўна абвінавачваў Трампа, што той можа не прызнаць вынікаў выбараў, а зараз самі не прызнаюць Трампа сваім прэзідэнтам. Тыя, хто вінавацій іншых у непрызнанні выбараў, самі іх не прызнаюць. Насамрэч робяць тое, у чым абвінавачвалі таго, хто гэтага не зрабіў. І мусоляць ды мусоляць гэтую тэму бясконца, высмоктваюць малюнкі з пальца і аж са шкуры вылазяць, каб даказаць, што нібыта Амерыка ўсё роўна Трампа не любіць.

Такі зараз свет. Тыя, хто ў сапраўднасці агрэсіўныя, абвінавачваюць у неталерантнасці і нецярпімасці іншых, на самой справе талерантных і цярпімых, проста за тое, што яны адважыліся выказаць сваё меркаванне. Азвярэлыя агрэсары называюць фашыстамі тых, хто асмеліўся абараняцца ад іх. А тыя, хто крычыць, што лепш будаваць масты а не сцены, у рэальнасці не пабудавалі і не пабудуюць анічога. І масты, і сцены будуюць адны і тыя ж людзі, якія будаваць умеюць. А што будаваць, масты або сцены, вырашаюць па прынцыпе сёняшняй мэтазгоднасці.

Амерыканскія выбары паказалі ўсю некампетэнтнасць большасці сённяшніх псеўдахваленых сацыёлагаў, бяздарных аналітыкаў, безадказных СМІ, без меркавання якіх не рабіліся зараз аніякія дзеянні. На іх думку, на навукова правераную методыку абапіраліся тыя, хто прымаў рашэнні. І ўсё гэта аказалася дутым пшыкам, пустышкай, нявартай выеденага яйка. Усе аналізы гэтай шматкалькаснай і добра забяспечанай арміі пустабрэхаў аказаліся проста банальным падманам. І нам, людзям, зараз трэба сур'ёзна задумацца, што мы нічога не ведаем пра свет, у якім жывем, бо ўжо многа дзесяцігоддзяў глядзелі на яго вачамі гэтых падманшчыкаў.

Зыходзячы з іх меркаванняў, мы будавалі свае ўяўленні пра дабро і зло, пра праўду і няпраўду, пра іншых людзей і нават пра саміх сябе. А ўсё гэта аказалася добра прадуманым падманам.

Ужо пасля таго, як прадказвалі перамогу супраціўнікаў «Брэкзіту», можна было паставіць тлустую кропку на праўдзівасці сённяшніх інфарматараў. Але ж здавалася што адзін раз можа памыліцца кожны. А вось зараз канчаткова стала зразумелым, што гэта не памылка. Гэта сістэма.

Ведаю гэта на сваім прыкладзе. Далёка і хадзіць не трэба. Я публічна прадказваў перамогу «Брэкзіту», за што неадназарова быў высмеяны нібыта разумнымі аналітыкамі. Але пасля таго, як стала зразумелым, што праў быў я, мяне ні разу не запрасілі на размову аніякія медыйныя акулы пяра. У іх па-ранейшаму выступалі тыя псеўдааналітыкі, з разумнай мордай абгрунтоўваючы прычыны, чаму брытанцы выйшлі з Еўрасаюза. І хачу сказаць, што іх прычыны былі такія ж фальшывыя, як і ранейшыя іхныя прадказанні.

Тое самае і з амерыканскімі выбарамі. Пасля таго як я напісаў матэрыял з прадказаннем перамогі Трампа, на мае сацыяльныя сеткі прыйшло безліч каментарыяў ад асоб з даволі вядомымі прозвішчамі, дзе мяне абзывалі дурнем і чалавекам, які зусім не разбіраецца ў сусветнай палітыцы. Але пасля таго як менавіта мае прагнозы збыліся, то акурат гэтыя людзі наваднілі ўвесь медыйны прастор і з яшчэ большым цынізмам разважаюць аб прычынах перамогі Трампа. І гавораць такую бязглуздзіцу, ад якой цягне на ваніты. А некаторыя дык сцвярджаюць, што яны прадбачылі перамогу Трампа, але не казалі пра яе, каб не псаваць агульнапрыняты медыйны малюнак.

Вось так. Яны не прападуць. Наадварот. Яны будуць вечна, бо ўпісваюцца ў фальшывую сістэму, якая сама сябе і трымае.

І становіцца цалкам зразумелым, чаму праўдзівыя сродкі масавай інфармацыі ўвесь час абразаюць у фінансаванні, або ўвогуле выцясняюць з медыйнага рынку.

Каму ў наш час патрэбна праўда.

**Віктар САЗОНАЎ**



# Пакуль што, я дурань

Я адчуваю сябе, як Ангела Меркель, сёння абсмяяная і абброханая з усіх бакоў. Незаслужана. Мне таксама не шкадуюць кпін. Вядома, іх маштаб і лютасць у параўнанні з тымі, якія ўспрымае канцлер Нямеччыны, непараўнальныя, але не менш балючыя. У абодвух выпадках — гаворка пра тое самае, пра наступствы нашых рашэнняў. Калі гаворка пра спадарыню канцлер — з-за адносін да бездзяржаўных імігрантаў — у асноўным мусульман. У маім выпадку — з-за адносін да бадзяжных сабак. сабакі не раўня людзям. Тым не менш, судносіны для абедзвюх груп, выказаныя спачуваннем і простай гуманнасцю, павінны быць эквівалентнымі. Зло мае адзін маштаб — яно само зло, незалежна ад яго наступстваў. Нават калі часова не робіць вялікай шкоды, адлюстроўваецца ў чалавечых рэфлексах і паводзінах. Часовасць з'яўляецца адпаведным маштабам зла, як бы яго не называць. Ці будзе гэта жорсткасць чалавека да чалавека, ці чалавека супраць жывёлы.

Іроніяй аддае — хоць ненаўмысна — той факт, што Ангела Меркель, як усе ведаюць, сабак не любіць. Баіцца іх. Але я не баюся бадзяжных сабак больш, чым мусульманскіх бежанцаў. Падобна шчырага хрысціянства, як і мудрага ісламу. Хоць у каранічнай традыцыі сабакі лічацца нячыстымі істотамі, але ў ісламскіх краінах караюць публічнай лупцоўкай людзей, якія наўмысна шкодзяць сабаку або кату. У краінах, якія завуцца хрысціянскімі, такія рэнегаты — беспакараныя.

Што тычыцца спадарыні канцлер, яна да нядаўняга часу лічылася самай уплывовай жанчынай у свеце, суайчыннікі яе паважалі. У Польшчы яна карысталася не меншай сімпатыяй. Так было да часу, калі прыняла рызыкоўнае з палітычнага пункту гледжання, але ж гуманітарнае рашэнне аб прыняцці нямецкай дзяржавай мільёнаў імігрантаў. Але ж пры ўмове, што краіны Еўрапейскага саюза ў знак салідарнасці з часам падзеляцца з Нямеччынай гэтым абцяжарвальным кантынгентам няшчасных людзей — самых нявінных ахвяр войнаў, тэрору і гвалту. І я мог бы дадаць, войнаў, якія не канчаюцца паразай або перамогай якога-небудзь з бакоў канфлікту. Як быццам хтосьці вельмі хацеў, каб іх распальваць. Або хутчэй — як быццам нехта хацеў, каб яны не гаслі.

Часовасць — сапраўдны маштаб зла. У Польшчы маем пакуль што ўладу, якая свой часовы аўтарытарызм тлумачыць неабходнасцю ўвядзення хуткіх і добрых змен у дэмакратычную, хоць пэўную хібаў, сістэму. Таму часова маем менавіта самадзяржаўную ўладу, якая займаецца сама сабою. Не хібамі дэмакратыі. Не людзьмі. З прычыны часовасці войнаў на Блізкім Усходзе і ў некаторых частках Афрыкі прыбывае ў Еўропу ўсё больш і больш бежанцаў. Многія краіны ЕС адвярнуліся да іх азадкам. У тым ліку Польшча. Быццам бы пакуль. Ці з'яўляецца гэта пачаткам канца еўрапейскай супольнасці? Тым часам «хтосьці» з-за гэтага пацірае рукі. Ці можа за гэтай загадкавай постаццю «кагосьці» хаваецца так званая Ісламская дзяржава, якая матэрыялізуецца ў бандыцкім тэроры расчараваных ісламскіх фундаменталістаў? А, можа, наднацыянальныя канцэрны, якія вырабляюць зброю? Ці Расія, не толькі палітычна, як і мілітарна, уцягнутая ў вайну ў Сірыі і ўжо даўно агентурна і палітычна — у канфлікт у Іраку, Афганістане ці Самалі? Кожны раз гэта магчыма. А з улікам таго, што расійская геапалітычная стратэгія заснавана на логіцы Пуціна, згодна з якой магутнасць Расіі вымяраецца слабасцю яе канкурэнтаў — нават вельмі верагодна. Нягледзячы на тое, што гэтая логіка заснаваная на гліняных меркаваннях, усё ж у кароткатэрміновай перспектыве ўяўляецца эфектыўнай. Што тычыцца мяне, я прытуліў пакуль што трэцяга за апошнія тры гады сабаку. Пакуль што, таму што наўрад ці магу дазволіць сабе ўтрымліваць двух папярэдніх. Я думаў, што трэцяга мне ўдасца хутка аддаць пад апеку гайнаўскага прытулку для жывёл. Тым часам, аднак, няма там месца для новых падапечных. Прытуленыя мною сабачкі маюць сіндром катаваных істот, а гэта значыць, што іх ранейшыя ўладальнікі былі звычайнымі садыстамі. Тым часам няма кары на гэтых катаў. А ад некаторых суседзяў чую, што я дурань. Пакуль так кажуць...

**Міраслаў ГРЫКА**



Сваімі вачыма

# Выбары медыяў

Нічога пэўнага і святога няма на гэтым свеце. Такая навука вынікае для ўсіх гэтак званых «элітаў» пасля амерыканскіх прэзідэнцкіх выбараў. Дэмакратычная перамога Трампа для многіх аказалася раптам замахам на дэмакратыю. Лепшай крывадушнасці не прыдумаеш. Дэмакратыя ёсць толькі тады, калі перамагае наш кандыдат. У іншым выпадку маем дачыненне з неразумнымі выбаршчыкамі. Так больш-менш выглядае агульнасусветная логіка думання палітычна-культурных «элітаў». А як не дзіўна сапраўдны палітычны нюх праявіў Аляксандр Лукашэнка, які яшчэ ў верасні публічна абвясціў, што пераможцам амерыканскага змагання стане Дональд Трамп. Гэта можа таксама значыць, што кіраўнік Беларусі мае такія веды, якіх самі амерыканцы не мелі. Хай у будучыні дрыжаць усялякія букмекерскія стаўкі, — падумалася мне, — бо Аляксандр Рыгоравіч будзе ведаць, на каго трапна паставіць.

Згаданае стаўленне «элітаў» гарантуе нам у бліжэйшай будучыні далейшыя выбарчыя неспадзяванкі. Народы не дурныя і паціху выбарчай карткай пакажуць дулю не адным кіруючым «элітам». Зараз наглядаем такую серыю. Год назад адбылася перамога цяперашняга прэзідэнта Анджэя Дуды над былым прэзідэнтам Браніславам Камароўскім. Сімвалам сляпой загледжанасці і безрэфлексіўнасці з'яўляюцца выказванні Адама Міхніка, які ў тэлебачанні заракаўся, што Камароўскі прайграе толькі ў адным выпадку: калі па-п'янаму машынай на пераходзе саб'е кульгавую, цяжарную манашку. Нясмачны жарт абярнуўся гневам грамадства супраць аўтара і прэзідэнта. Часта такім ляпаннем палітыкі ў любой краіне выклікаюць супраць сябе скрытую нянавісць. З рукой у начным гаршку прачнуліся еўрапейскія чыноўнікі, даведаўшыся пра вынікі галасавання ў справе выхаду Вялікабрытаніі з Еўрасаюза. Усе былі ў здзіўленні, як такое магло здарыцца. Перад намі выбары ў Францыі і Нямеччыне, без неспадзяванак пэўна не абыдзецца. Польшча, «Брэкзіт», а цяпер ЗША паказалі, што няма аніякіх верагодных сацыялагічных апытанняў. Усё адбываецца па прынцыпе куплі-продажу. Той, хто плаціць, атрымлівае такую музыку, якую хоча слухаць. А людзі звычайна пабачылі ашуканства такіх даследаванняў і перасталі выяўляць свае сапраўдныя палітычныя выбары. Ці адбудуюць рэйтынгавыя агенцтвы давер да сябе бліжэйшым часам? Сумняваюся ў гэтым.

На многія пытанні, як у выпадку амерыканскіх выбараў, мусяць сабе адказаць іхнія медыі, якія сталі выключна прапагандысцкай машынай сваіх кандыдатаў. Некаторыя клеркі з-за акіяна любяць павучаць краіны Усходняй Еўропы пра незалежныя медыі і журналістаў, забываючыся, што яны самі вычвараюць у сябе ў ходзе палітычных кампаній. Надрукаваная загадзя першыя старонкі з пераможнай Хілары Клінтан гэта ўжо толькі вішанька на прапагандысцкім торце. Як гаворыць біблейская прытча «падзенню папярэднічае пыха». Сумная з'ява неаб'ектыўнасці публічных медыяў гэта таксама і рэальнасць у польскай дзяржаве. Генеральна маем дачыненне з племяннапалітычным падзелам медыйнага рынку ў Польшчы. Але зараз прынамсі ёсць магчымасць выбару паміж правымі і левымі сродкамі масавай інфармацыі. Не пішу тут пра прыватныя медыі, бо яны самі сабе за ўласныя грошы расстаўляюць свае палітычна-светапоглядныя журналісцкія акцэнты. За ўласныя грошы маюць на гэта сваё неад'емнае права. Яшчэ адной вельмі характэрнай з'явай на польскім, асабліва прэсавым, рынку з'яўляецца абсалютнае дамінаванне і канцэнтрацыя выдавецтваў у нямецкіх прэсавых карпарацыях. Цалкам з лакальнага рынку выціснутыя незалежныя выданні. Аднак з развіццём інтэрнэту і сацыяльных сетак тыражы рэгіянальных газет падаюць стрымгалоў. Электронныя СМІ, як радыё ці тэлебачанне, са сваімі гукам і вобразам падрэзваюць таксама друкаванае слова. У бліжэйшай будучыні гэты сегмент прэсы чакае шмат сумятні і пераўтварэнняў. Як не дзіўна, на фоне клопатаў штодзённікаў даволі паспяхова трымаюцца штотыднёвікі. Штотыднёвік дае магчымасць значна шырэй апісаць свет і пакінуць чытачу права на ягоную асабістую рэфлексію. Таму варта быць з «Нівай», каб наш беларускі свет меў уласны пункт гледжання.

**Яўген ВАПА**

# Пра бежанства ў Гайнаўскім белмузеі



**Ушанаванне сотай гадавіны бежанства 1915 года пачалося ў канцы 2014 года ў Музеі і асяродку беларускай культуры ў Гайнаўцы з прэм'еры спектакля «Бежанцы», у выкананні гайнаўскіх і бельскіх белліцэістаў, удзельнікаў тэатральнай групы ў Гайнаўскім белмузеі. Спектакль ставіўся 25 разоў — апошні раз нядаўна паўторна ў белмузеі. Рэжысёрам спектакля была Іаанна Стэльмашук-Троц, апякунка тэатральнай групы. Бежанства на Беласточчыне пачалося летам 1915 года. Вярталіся бежанцы дамоў у пачатку дваццатых гадоў мінулага стагоддзя, часта на папялішчы і зарослыя пустазеллем панадворкі. Выйшлі ў нас кніжкі аб бежанстве на беларускай і польскай мовах, пэўна выйдуць з друку яшчэ новыя выданні пра гэтыя трагічныя падзеі стогадовай даўнасці. 26 кастрычніка ў кіназале Музея і асяродка беларускай культуры ў Гайнаўцы адбылася дыскусія наконт бежанства, а нагодай для яе была прапрэм'ерная прамоцыя (агульнапольская прэм'ера адбылася ў апошнія выхадныя дні кастрычніка) другога, выпраўленага, польскамоўнага выдання Барбары Гаральчук «Надзея ажно па небакрай», якую наладзіла музейная бібліятэкарка Анджаліна Масальская ў рамках праекта «Кірыліцай пісанае».**

— Ёсць патрэба гаварыць голасна пра бежанства, бо людзі ў Польшчы не ведаюць, што гэта такое. Гэта гісторыя нас, беларусаў, падляшукоў, палякаў, перш за ўсё звычайных людзей, якія сто гадоў назад жылі на нашай зямлі, — сказала Барбара Гаральчук, якой аповесць «Надзея ажно па небакрай», напісаную на польскай мове, чытаюць ва ўсёй Польшчы. — Чытала я іншыя кніжкі пра бежанства. Сенсацыяй з'яўляецца кніжка «Бежанства 1915 года», прыгожа перавыдадзена «Нівай» — крыніца ведаў пра бежанства, спісаных ад многіх відавочцаў тадышніх падзей. Гісторыя бежанства ўдала абагульнена ў кніжцы Дарафея Фіёніка «Бежэнство. Дорога і повороты. 1915-1922», у якой многа здымкаў. Цікавыя таксама выдадзеныя ў нас іншыя кніжкі пра бежанства.

Падчас спаткання ў белмузеі мала гаварылася пра надыход летам 1915 года на нашы землі фронту і непрадуманыя рашэнні расійскіх вайсковых улад, якія выклікалі масавы выезд на ўсход, між іншым, насельніцтва Беласточчыны. Пра гэта больш гаварылася падчас папярэдніх белмузейных сустрэч. Летам мінулага года адбылася даволі дэталёвая рэканструкцыя моманту выезду ў бежанства, праведзеная перш за ўсё Музеем малой айчыны ў Студзіводах. У гэтым квартале Бельска адбылася таксама рэканструкцыя Бельскай бітвы. Поспехі нямецкіх войск у час Бельскай бітвы давялі да таго, што была ім адкрыта дарога для хуткага перамяшчэння на ўсход, а Бельск і яго наваколле неўзабаве трапілі пад нямецкую акупацыю. Удзельнікі сустрэчы ў белмузеі сказалі, што большасць жыхароў Арэшкава і Грабаўца, вёсак на ўскраіне Белавежскай пушчы, не здолела ўцячы перад нямецкай арміяй і былі завернуты нямецкімі вайскоўцамі дамоў. Хаця жыхары гэтых сёлаў вярталіся дамоў у вялікім страху, гэта было для іх выратаваннем ад цяжкасцей бежанства, якому спадарожнічалі голад, холад, хваробы і смерць. Менавіта трагедыя нашага насельніцтва ў бежанстве апісана ў аповесці Барбары Гаральчук «Надзея ажно па небакрай», напісанай на польскай мове. Барбара Гаральчук дзяцінства і юнацтва правяла ў Мокрым, вёсцы каля Бельска-Падляшскага, у якім закончыла вучобу ў Агульнаадукацыйным ліцэі з беларускай мовай навучання імя Браніслава Тарашкевіча. Аўтарка сказала, што першы раз выдала кніжку сама і яна распрадалася. Фонд «Суседзі» з Беластока рашыўся на другое, выпраўленае выданне кніжкі «Надзея ажно па небакрай». Кніжка пачынаецца з апісання атмасферы ў Мокрым перад набліжэннем фронту, калі святар у царкве абвясціў, што прыход таксама будзе збірацца да выезду ва ўсходнім напрамку.



■ У Гайнаўскім белмузеі адбылася прамоцыя другога выдання кніжкі Барбары Гаральчук «Надзея ажно па небакрай»

■ Музейная бібліятэкарка Анджаліна Масальская зачытала некалькі вершаў Барбары Гаральчук

— Я не гісторык і не рабіла аналізу бежанства на падставе дакументаў і матэрыялаў, якія магла б знайсці ў архівах, але паказала бежанства на падставе лёсу сям'і маёй бабулі Кацярыны, пакарысталася аповедамі сведак бежанства і асоб, якія добра запамяталі расказы пра бежанства, — гаварыла спадарыня Гаральчук.

З кніжкі можна даведацца, як хутка распаўсюджваліся чуткі, што немцы забіваюць людзей, паляць вёскі. З Мокрага ў бежанства не паехалі толькі 4 сям'і. Засталіся дома таксама найстарэйшыя жыхары з іншых сем'яў, якім складана было б ужо перамяшчацца многа дзён і рашыліся дажываць на бацькаўшчыне. Трагедыю расставання з бацькаўшчынай аўтарка апісвае перш за ўсё на падставе сваёй сям'і Філіпюкоў з Мокрага. Прачытаўшы дакладней апісанні, можна ўявіць сабе, як моцна перажывалі нашы людзі, якія мусілі пакінуць дома нажытае вякамі дабро і адправіцца ў бежанства толькі з тым, што змясцілася на возе. Больш вартасныя прылады працы і каштоўныя прадметы людзі закопвалі ў зямлі з надзеяй, што будуць імі карыстацца доўгія гады пасля вяртання. Калі б яны ведалі, што адпраўляюцца ў дарогу на доўгія гады, пэўна частка з іх не рашылася б выязджаць у невядомае, дзе частка з іх памерла.

Былі такія вёскі, у якіх вялікая частка жыхароў не выехала ў бежанства. Напрыклад, сям'я маёй бабулі Вольгі з Новага Беразова ўся адправілася ў бежанства, а сям'я майго дзядулі Мікіты, які летам 1915 года змагаўся як марак на Балтыйскім моры ў Расійскім флоце, засталася на месцы, так як частка жыхароў Новага Беразова. Калі сям'я бабулі Вольгі вярнулася дамоў, у яе новаўзведзенай перад вайной хаце жылі іншыя жыхары вёскі, якія пасля саступілі месца вярнуўшымся ўласнікам. Аднак паспелі яны разабраць частку драўлянага хлява і спаліць яго ў печах. Народная паэтэса Вера Масайла з Гайнаўкі, ураджэнка Збуча, падчас белмузейнага спаткання распавяла, як жыхары яе роднай вёскі галадалі, вярнуўшыся з бежанства. Вядома, што моцна галадалі жыхары вёсак, з якіх усё насельніцтва адправілася ў бежанства. Вярнуўшыся дамоў, не мелі яны ў каго пазычыць збожжа ці бульбы. Так было і з жыхарамі Мокрага, аб чым гаварыла ў музеі Барбара Гаральчук.

У кніжцы дакладна апісана дарога бежанцаў з Мокрага ў Расію. Едучы яшчэ па беларускай зямлі прадзед аўтаркі, Антон Філіпюк, паверыў інфармацыям, што пад нямецкай акупацыяй можна спакойна жыць. Убачыўшы вялікую трагедыю бежанцаў у пачатку дарогі, ён разам з сямейнікамі на фурманцы адлучыўся ад бежанцаў і тайком стаў вяртацца дамоў. Аднак у зваротнай дарозе захварэў на тыф, памёр і быў пахаваны каля Кобрына. Барбара Гаральчук апісвае далейшае падарожжа сям'і Філіпюкоў па землях Расійскай імперыі, жыццё сваіх продкаў у Казані і іншых месцах Расіі, многа піша аб жыцці ў Міхалаўцы. Галоўныя яе героі падчас бежанства мусяць пераадолець розныя цяжкасці, але таксама атрымліваюць дапамогу ад многіх расіян, бачаць іншае жыццё, чым было ў Мокрым, але не пакідаюць думкі аб вяртанні дамоў. Аўтарка «Надзеі ажно па небакрай» піша пра вяртанне на радзіму па дарогах савецкай дзяржавы і пасля па шляхах адноўленай польскай дзяржавы. Сустрэча падчас вяртання дамоў Марыі Філіпюк са сваімі дочкамі Таццянай, Верай, Ленай, іх мужамі і дзеткамі, якія жылі тады ў Брэсце паказвае, як бежанцы рознымі дарогамі вярталіся дамоў з новаствbooранай савецкай дзяржавы і бачылі адноўленую польскую дзяржаву з новымі парадкамі жыцця.

— Я не ведаю, як мая прабабуля Марыя без мужа, а толькі з дачкой Кацяй і сынам Раманам далі рады столькі падарожнічаць па Расіі і яшчэ вярнуцца дамоў. Калі прыехалі на свой панадворак у Мокрым, убачылі там толькі шпіхерык. Усё іншае было знішчанае, а панадворак зарос пустазеллем. Усе складанасці бежанства загартавалі маю бабулю Кацю пераадольваць цяжкасці ў яе далейшым жыцці, — заявіла спадарыня Барбара.

Музейная бібліятэкарка Анджаліна Масальская зачытала некалькі вершаў аўтарства Барбары Гаральчук, напісаных на гаворцы вёскі Мокрае. Свае вершы чытала таксама сама аўтарка.

— Я вершы пішу з шаснаццатага года жыцця, з часу вучобы ў Ліцэі з беларускай мовай навучання ў Бельску-Падляшскім. Першапачаткова пісала я вершы на беларускай літаратурнай мове, пісала таксама на польскай мове, але зараз найбольш пішу на сваёй гаворцы, на якой думаю, так як размаўляюць у Мокрым. Беларускае грамадска-культурнае таварыства плануе выдаць мае вершы ў арыгінале. Я напісала чарговую кніжку аб жыцці на нашых землях у міжваенны перыяд і будзе яе выдаваць Фонд «Суседзі». Ужо ў пачатку наступнага года кніжка павінна выйсці з друку, — сказала Барбара Гаральчук.

Наша Праграмная рада тыднёвіка «Ніва» выдала ў асобных кніжках успаміны перыядаў бежанства, міжваеннага часу, Другой сусветнай вайны і пасляваеннага жыцця, ажно да 1956 года. Тады стала выдавацца «Ніва», якая з'яўляецца сучасным летапісам беларускай нацыянальнай меншасці ў Польшчы. Жадаем спадарыні Барбары Гаральчук, каб пішучы свае аповесці не спынілася на міжваенным перыядзе і апісала жыццё сваіх блізкіх і іншых беларусаў таксама ў пазнейшым часе.

Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА

# Дэмаграфія Кляшчэлеўскай гміны

Кляшчэлеўская гміна Гайнаўскага павета мяжуе з пяццю гмінамі: Дубіцкай, Чаромхаўскай, Мілейчыцкай, Арлянскай і Боцькаўскай. Займае плошчу ў 14 262 гектары, у тым ліку 8 762 га ўгоддзяў (палі, лугі і сенажаці — 2 894 га), 5 135 га лесу і аж но 1 289 га няўдобіцы ды пяскоў. Кожны год у гміне на няўдобіцах садзяць лес. Плошча Кляшчэлеўскай гміны складае 9% тэрыторыі Гайнаўскага павета.

У Кляшчэлеўскай гміне пражывае 2 756 чалавек у шаснаццаці мясцовасцях (тут чатырнаццаць салэцтваў). Два гады таму было 2 966 асоб. Шчыльнасць насельніцтва — 19 асоб на квадратны кіламетр. На 100 мужчын прыпадаюць 103 жанчыны. Ва ўзроставым дыяпазоне ад 60 да 85 і больш гадоў жанчыны значна пераважаюць.

Найбольшыя мясцовасці: горад Кляшчэлі налічвае 1 336 чалавек ды вёскі Дабрывада — 243, Дашы — 233, Палічна — 157, Сухавольцы — 124, Сакі — 119 і Тапаркі — 103. Найхутчэй абязлюджваюцца вёскі Дашы, Палічна і Сухавольцы. Ад 40 да 70 жыхароў налічваюць: Паграбы — 67, Залешаны — 55, Курашава — 51, Грузка — 48 і Рэпчычы — 40. У Косьнай жывуць толькі тры чалавекі. У вёсках штораз больш пенсіянераў. Колькасць жыхароў у гміне з году ў год змяншаецца. Зямля тут слабая. Маладыя людзі падаюцца ў гарады.

Сёлета нарадзілася 13 дзяцей ды памерлі 38 асоб. Вянчалася дзевяць пар. У гміне няма стогадовых жыхароў. Медалі «За шматгадовае шлюбнае жыццё» атрымалі шэсць пар: Ніна і Сцяпан Пякуціны, Валянціна і Антон Гапанюкі, Ванда і Анатоль Анішчукі, Надзея і Мікалай Марозы, Галіна і Лявонцій Ліцкевічы ды Марыя і Леанід Буйко.

# Дэмаграфія Мілейчыцкай гміны

Мілейчыцкая гміна Сямятыцкага павета займае плошчу ў 152 квадратныя кіламетры. Гэта дзясятая частка тэрыторыі павета. Яна мяжуе з Боцькаўскай, Чаромхаўскай, Дзядковіцкай, Кляшчэлеўскай і Нурэцкай гмінамі. У гміне 53% яе плошчы займаюць сельскагаспадарчыя ўгоддзі і 40% лясы. Шчыльнасць насельніцтва 13 чалавек на квадратны кіламетр.

Зараз у Мілейчыцкай гміне пражывае 1 999 чалавек у 21 мясцовасці. На 100 мужчын прыпадае 115 жанчын. Як вядома, жанчыны наогул даўжэй жывуць ад мужчын. У 2012 годзе ў гміне было 2 015 асоб. Найбольшыя вёскі ў гміне гэта Мілейчычы — 815 жыхароў, Паканева — 170, Валкі — 133, Паканева-Калёнія і Сабятына — па 114 ды Рагачы — 103 чалавекі.

Ад трыццаці да ста жыхароў налічваюць вёскі Харашчэва — 77, Харашчэва-Калёнія — 70, Навасёлкі — 61, Мікулічы — 56, Клімковічы — 45, Грабарка — 36, Левашы — 35, Мядвежыкі — 34, Белкі — 33 і Баравікі — 31. Самыя малыя вёсачкі гэта Ялтушчыкі — усяго 7 жыхароў, Касцюковічы — 10, Галубоўшчына — 15, Ханькі — 17 і Любейкі — 23.

У Мілейчыцкай гміне сёлета нарадзілася 8 дзяцей і памерлі 39 чалавек. Стогадовых жыхароў няма. Ёсць дзве 98-гадовыя жанчыны ў Мілейчычах і Мядвежыках. У гэтым годзе «залатое вяселле» будзе спраўляць восем пар з Паканева, Рагач, Мілейчыч, Грабаркі і Мікуліч. Атрымаюць яны медалі — ад прэзідэнта РП — і дыпломы «За шматгадовае шлюбнае сужыццё».

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**

# Пажарнікі ў Арлянскай гміне

Штогод гмінныя радныя атрымліваюць інфармацыю пра рэалізацыю задач па супрацьпажарнай ахове. Як паведаміла працаўніца Гміннай управы Кацярына Дабрачынская, на тэрыторыі Арлянскай гміны дзейнічае сем добраахвотных пажарных каманд; адна з іх, арлянская, уключана ў краёвую выратавальна-тушыльную сістэму. У жніўні 2016 года заініцыяваны дзеянні па ўключэнні ў такую ж сістэму добраахвотнай пажарнай каманды ў Малінніках, якая сёлета атрымала новую выратавальна-тушыльную машыну коштам каля трохсот сямідзесяці тысяч злотаў.

Добраахвотная пажарная каманда з'яўляецца абмундзіраванай часцю, абсталяванай спецыяльнай апаратурай для змагання з пажарамі, стыхійнымі бедствамі ці іншымі мясцовымі пагрозамі. Да таго ж падтрымлівае разнародныя формы культурна-асветнай працы ды папулярызуе спартыўную дзейнасць. Кошт абсталявання, утрымання, абучэння і захавання боегатоўнасці пажарнікаў нясе гміна. Гміна таксама запэўнівае абмундзіраванне і страхаванне пажарнікаў ды кошт іх перыядычных медыцынскіх аглядаў.

Зараз у Арлянскай гміне 136 актыўных пажарнікаў (у 2008 годзе было 145). Пры арлянскай камандзе паўстала жаночая дружына з васьмі асоб ды маладзевыя дзявочая і хлапечая каманды па дзесяць асоб кожная. У паасобных камандах Арлянскай гміны розныя лікі членаў: у Орлі 50 пажарнікаў, у Малінніках 28, у Рыгораўцах 11, у Вульцы-Выганоўскай 8, у Градалях 10, у Рудутах 13 і ў Спічках 16.

За перыяд з 1 жніўня мінулага года да 31 ліпеня бягучага на ўтрыманне пажарных каманд выдаткавана амаль адзін мільён злотаў. Былі яны прызначаны на:

1) бягучыя выдаткі (амаль 138 тысяч зл.), у тым ліку на куплю паліва, дробныя рамонты тэхнікі (амаль 90 тыс.), эквівалент пажарнікам за ўдзел у тушыльных акцыях (амаль 9,3 тыс.), вымашчэнне і добраўпарадкаванне ўчастка пры арлянскім дэпо (амаль 30 тыс.);

2) інвестыцыйныя выдаткі — купля згаданай машыны для каманды ў Малінніках ды мадэрнізацыя будынка арлянскага дэпо (звыш 467 тыс. зл.). Арлянская каманда здабыла датацыю з Галоўнай камендатуры пажарнай аховы на куплю аснашчэння (4386 зл.).

Малінніцкія пажарнікі ў рамках уласных сродкаў парадкавалі наваколле дэпо, высякалі кусты, нівеліравалі і парадкавалі ўчастак. Сябры пажарных каманд удзельнічаюць таксама ў вучэннях з галіны супрацьпажарнай аховы ў вытворчых прадпрыемствах (Нафтан, IKEA) ды ў выратавальных вучэннях супольна са Скорай авіядапамогай у Беластоку і Дзяржаўнай пажарнай аховай у Бельску-Падляшскім. Пажарнікі з арлянскай каманды прымалі ўдзел у акцыях, звязаных з ліквідацыяй пагрозы афрыканскага мору свіней на тэрыторыі Арлянскай гміны.

У рамках папулярызацыі пажарнай дзейнасці шасцярых членаў моладзевай пажарнай групы з Орлі ўдзельнічалі ў спартыўна-адпачынковым лагеры ў Сэрвах, ладжаным Ваяводскім згуртаваннем Добраахвотных пажарных каманд у Беластоку.


Фота www.orla.pl


Фота www.orla.pl

Члены малінніцкай каманды рэпрэзентавалі Арлянскую гміну ды Падляшскае ваяводства на VII Агульнапольскім турніры футсала за кубак старшыні Галоўнага праўлення Згуртаванняў добраахвотных пажарных каманд. Удзельнічалі таксама ў VI Турніры за кубак каменданта пажарнікаў у Белавежы па футболе. Арлянскія і малінніцкія пажарнікі складаюць стрыжань гміннай футбольнай каманды ў Орлі.

Паводле інфармацыі каменданта Дзяржаўнай пажарнай аховы ў Бельску-Падляшскім, прадстаўленай радным, вынікае, што ў Бельскім павеце ў параўнанні з мінулым годам наступіў рост колькасці здарэнняў на 44,7%. У катэгорыі мясцовых пагроз наступіў рост на 68 здарэнняў, г.зн. на 26,7%. У катэгорыі пажараў колькасць здарэнняў узрасла на 112 інтэрвенцый, г.зн. на 69,1%. Рост статыстык быў паслядоўнасцю атмасферных фактараў і анамалій пагоды ў летні перыяд. Хваля гарачыні і доўгі перыяд засухі ў летні час, бясснежная зіма ды адсутнасць веснавых ападкаў прычыніліся да росту колькасці пажараў. Навальныя буры з ураганамі, якія пранесліся над паветам, выклікалі рост інтэрвенцый у катэгорыі мясцовых пагроз.

На тэрыторыі Арлянскай гміны ў 2015 годзе зафіксавана 41 здарэнне, што складае 7% ад агульнай колькасці інтэрвенцый. У перыяд з 1 студзеня да 31 жніўня 2016 года на тэрыторыі гміны зафіксавана 28 здарэнняў (7% здарэнняў у павеце).

Арлянскіх радных на сесіі 30 верасня павятовы камендант пажарнікаў Вальдэмар Кудрэвіч паінфармаваў, што ў мінулым годзе на тэрыторыі Бельскага павета было 605 здарэнняў, а сёлета да 31 жніўня — 395; сыходны трэнд.

* * *

Пажары былі здавён-даўна. Мяняецца ў лепшым напрамку тэхнічнае абсталяванне, паволі расце свядомасць людзей. Аднак адно застаецца нязменным. У час пажару, як і пры іншых здарэннях, можна наглядаць характэрную псіхалагічную з'яву: натоўп людзей збіраецца не для дапамогі ў тушэнні агню ці ратаванні маёмасці, але каб паглядзець на стыхію, пракаментаваць здарэнне. Бывае, што на пажар бягуць пажылыя людзі з суседніх мясцовасцей, і то ноччу. Разявакі стаяць і прыглядаюцца, як пажарнікі, рызыкуючы здароўем і жыццём, змагаюцца з агнём, як цярпяць нешчаслівыя. Гледачы вядуць сябе як балельшчыкі на матчы або публіка на спектаклі. Здараецца, што сярод тых разявак прысутнічае і падпальшчык.

**Міхал МІНЦЭВІЧ**

# Картка з гісторыі

У 16 нумары «Нівы» ад 8 сакавіка 1981 года ў «Парнасіку» быў змешчаны верш Мікалая Лук'янюка «Заклік», які варта напомніць.

**ЗАКЛІК**

*Каб нам «Ніва» прыгажэла,*
*Каб пабольшыўся тыраж,*
*Заклікаю, добры людзі,*
*Пачасцей да нас пісаць!*
*Каб «Парнасік» не злаваўся*
*І з старонак не знікаў,*
*Вы, паэты-белавежцы,*
*Аб'явіцесь часам там.*
*Напішэце аб прыродзе,*
*Аб палях, лугах, лясах,*
*І аб працы земляробаў,*
*Як збіраюць ураджай,*
*І рабочы на заводах,*
*Як змагаўся, працаваў,*
*Каб жыццё нам прыгажэла*
*І каб край наш расцвітаў!*
*Вы, сябры-карэспандэнты,*
*Хто з вас можа рыфмаваць,*
*Не забудзьце, што «Парнасік»*
*Нізка кланяецца вам.*

**М. Лук'янюк**

З таго часу мінула больш за трыццаць пяць гадоў. Сёлета «Ніва» адзначае шасцідзесяцігадовы юбілей. На жаль, не будзе з намі на святкаваннях нашых ніўскіх калег па пяру — Сакрата Яновіча, Мікалая Лук'янюка, Георгія Валкавыцкага — галоўнага рэдактара «Нівы». Адышлі быццам па змове ў вечны спачын у злашчасным 2013 годзе (пахаванне С. Яновіча 21 лютага ў Крынках, М. Лук'янюка 23 сакавіка ў Трасцяницы, Г. Валкавыцкага 10 красавіка ў Белавежы). І зараз, калі пішу гэты тэкст, успамінаюцца супольна пражытыя будні з блізкімі сэрцу прыяцелямі. З Сакратам Яновічам, напрыклад, адзначалі 55-гадовы ніўскі юбілей. Правялі доўгую сардэчную размову, у якой успаміналі буйнае працвітанне роднага часопіса і славуты ніўскі лозунг «Толькі скнара і лянівы не выпісвае „Нівы"». Зрабілі памятныя здымкі. І тады нават у думцы не мільганула, што гэта будзе апошняя наша сустрэча. Таксама было са светлай памяці Г. Валкавыцкім. Не было ўжо ў нашай кампаніі Мікалая Лук'янюка. Мабыць, ужо тады здароў'е не было найлепшае. Ніхто з нас не ведае наканаваня лёсу. Варта затым пакарыстацца залатой думкай св.п. ксяндза Яна Твардоўскага: «Спяшайма любіць людзей, яны так хутка адыходзяць».

**Уладзімір СІДАРУК**

# Драўляны запал

**Адной з архітэктурных асаблівасцей Беласточчыны несумненна з'яўляюцца дамы ў беларускіх сёлах. Нескладана здагадацца, што гаворка ідзе тут пра драўляныя хаты, якія ў многіх выпадках можна лічыць адначасова «мёртвымі носьбітамі гісторыі» — іх пабудавалі яшчэ ў такіх адлеглых перыядах як Расейская імперыя ды міжваеннае дваццацігоддзе. Засяродзімся тут на тых дамах, якія паўсталі пасля Першай сусветнай вайны, а больш дакладна — на характэрнай арнаментоўцы будынкаў. Да яе прысутнасці на Беласточчыне спрычыніліся бежанцы, якія літаральна ідучы адсюль у 1915 годзе ў Расею, вярнуліся з ведамі аб узорах і тэхніцы выканання драўляных арнаментаў. Гэта цягам часу паўплывала на прысутнасць на Падляшшы разьбяроў, якіх умеласцямі пачалі карыстацца іншыя жыхары, заказваючы ў майстроў драўляныя аздабленні. Адным з такіх майстроў з'яўляецца Аляксей Рыжынскі родам з Войшак, які з пасляваенных гадоў займаецца вырабам драўляных аздоб. Аказваецца, шмат узораў з дрэва, якія можна ўбачыць на ўсходзе Падляшша, выйшлі якраз з-пад рукі спадара Аляксея.**



Вырабам драўляных арнаментаў, а таксама ўпрыгожваннем імі дамоў Аляксей Рыжынскі займаецца ўжо больш за 50 гадоў. На працягу гэтага перыяду выконваў ён яшчэ і іншыя сталярныя работы, напрыклад вокны ці дзверы, а таксама будаваў дамы. Хаця сёння, беручы пад увагу 85-гадовы ўзрост, ён не ў змозе займацца гэтай апошняй з ліку названых прац, у Войшках ды наогул у прынарвянскіх вёсках стаіць многа хат, пабудаваных літаральна рукамі майстра. І якраз тыя дамы з'яўляюцца адначасова светлымі прыкладамі архітэктуры Беласточчыны са спецыфічнымі драўлянымі ўзорамі. Менавіта выконваннем іх у найбольшай ступені вядомы Аляксей Рыжынскі.

Па словах майстра, выконванне ўзораў з дрэва патрабуе засяроджанасці і цярплівасці:

— Напэўна гэта занятак для чалавека, які ў змозе стрымаць эмоцыі і выключыць на час працы нервовасць, што неабходнае з-за дакладнасці выконваных дэталяў. А пачынаю працу з абрысавання алоўкам на дрэве контураў паловы ўзору, які мае быць выразаны. Пасля дарысоўваю другую сіметрычную палову і пачынаю выразваць. Гатовы драўляны ўзор абшліфоўваю і наогул пакідаю ў такім выглядзе заказчыку, хіба што просяць дадаткова памаляваць або палакіраваць. Актуальна ў ходзе працэсу стварэння маіх арнаментаў карыстаюся такімі сучаснымі прыладамі як дрыль, шліфавальны станок, а першапачаткова карыстаўся толькі сякерай і ручной пілкай.

Матывы на арнаментах аўтарства Аляксея Рыжынскага таксама асацыююцца з Беласточчынай, перш за ўсё з яе натурай, прыродай. Прыкладна, можам на іх убачыць птушак у гнёздах, накіраваных да сябе дзюбамі, быццам бы «пасвойму гутарылі», як адна вялікая сям'я красуюцца перад гледачом маргарыткі і цюльпаны, сваю магутнасць і мужнасць прэзентуе белавежскі зубр. Сакральны характар працам вышкаўскага разьбяра дадаюць крыжы, якія наогул знаходзяцца ў сярэдзіне кампазіцыі. Такія ды многія іншыя драўляныя матывы на дамах можна прыкмеціць над дзвярмі, пад або над вокнамі, на вуглах будынкаў ды ва ўсіх магчымых месцах дамоў.

З самага пачатку разьбярскай дзейнасці заказы да спадара Рыжынскага наплывалі наогул з Беласточчыны. Паводле яго, можна смела меркаваць, што немалая частка дамоў гэтага рэгіёна прыаздобленая арнаментамі, якія выйшлі якраз з-пад ягонай рукі.

— Мушу тут пачаць са свайго панадворка, а менавіта з таго, што ўсе драўляныя арнаменты, якія красуюцца на дамах у Войшках, якраз майго аўтарства. Заказы прыходзілі і з іншых прынарвянскіх вёсак, магу тут між іншымі пералічыць Цялушкі, Пухлы, Сацы, Трасцянку — менавіта з тамашніх ваколіц было найбольш ахвотных прыаздобіць сваё месца пражывання маімі вырабамі. Прыхільнікі драўляных народных арнаментаў былі і ў іншых кутках Падляшша, прыкладна, на Гайнаўшчыне — найбольш заказаў было з Чаромхі і Збуча. Але зацікаўленасць арнаментамі майго аўтарства праяўлялася не толькі ў беларускіх сёлах. Таксама сярод жыхароў мясцовасцей з польскім насельніцтвам, наогул каталіцкага веравызнання, можна ўбачыць зацікаўленасць маімі працамі. Прыкладна, апошнім часам меў нагоду прыаздабляць некалькі хат у Вышках і Самулках. Аднак самы асаблівы заказ надышоў, а нават літаральна прыехаў, з другога канца Польшчы. Аднойчы з'явіўся чалавек аж-но з Гажова-Вялікапольскага, з самага захаду Польшчы. Аказалася, што нідзе бліжэй рэгіёна, у якім ён жыве, не было майстра па такой рабоце, якой займаюся якраз я. Здаецца, што яшчэ захаваўся сшытак, у якім запісаны адрасы маіх кліентаў. Ёсць іх сотні.

Сёння колькасць ахвотных набыць драўляныя арнаменты ў Аляксея Рыжынскага значна меншая. Можна гэта тлумачыць пераездам малодшага пакалення жыхароў вёсак у гарады, у выніку чаго хаты, на якіх маглі б быць прыбіты ўзоры, пустуюць, а затым прапануюцца на продаж. Магчыма, што новых уласнікаў не цікавяць такія аздабленні, а малодшае пакаленне, якое ўсё ж такі вырашае застацца ў родным сяле і з'яўляецца адзіным уладальнікам дома, мае іншае ўяўленне аб выглядзе жылога будынка.

— На пачатку 70-х гадоў XX стагоддзя зацікаўленасць у заказах на арнаменты значна панізілася. Такі вось стан утрымліваўся амаль да канца дэкады. Нея́к бліжэй пачатку новага дзесяцігоддзя наступіў рост колькасці кліентаў, а 80-я гады былі ўжо апагеем маёй дзейнасці. Помню, што ахвотных набыць мае працы было столькі, што я не змог усіх іх запісаць на дадзены год, тады прымаў заказы на чарговы. У 90-я гады было ўжо крыху менш кліентаў, але яшчэ можна было адчуць частае зацікаўленне арнаментамі. Пачынаючы з першай дэкады XXI стагоддзя паступова што раз радзей атрымліваў заказы, хаця заўжды меў я падрыхтаваных ужо некалькі гатовых узораў. Гэтаксама ёсць і сёння, калі вісяць іх у маёй стадоле яшчэ больш.

Нягледзячы на значна меншую чым калісьці зацікаўленасць народнымі драўлянымі ўзорамі, спадар Аляксей усё ж такі па-ранейшаму праводзіць час, выконваючы сваю разьбу.

— Не адзін прабаваў брацца за такую працу, але нярэдка бачыў я як яны адмаўляліся. Лічу, што па прычыне таго, што ў працу трэба ўкладаць перш за ўсё сэрца, адначасова ведаючы, што працэс тварэння такіх аздоб «не займае моманту ды нават двух». Не забывайма аб тым, што арнаменты гэта ручная работа. Хаця я ўжо сталага ўзросту і ў мяне ўжо не тыя самыя сілы што ў маладосці, далей ствараю сваю разьбу. Раблю гэта нават у менш карысных атмасферных умовах, як прыкладна ў марозную зіму, вядома, калі мароз невялікі — так да 15 градусаў па Цэльсію. Усё гэта таму, што выраб драўляных арнаментаў застаецца маім запалам, пры якім я правёў большую частку свайго жыцця.

**Тэкст і фота Мацея РАЦІНЕЎСКАГА**



## Адкуль я пенсіянер?

Калі хтосьці пра мяне што піша, дык адзначае, што я, цяпер дзевяностагадовы, ужо ў 1969 годзе пайшоў на пенсію. І мне неяк сорамна, што я столькі гадоў ем дармовы польскі хлеб... А гэта няпраўда. У 1969 годзе я з вайсковай службы на падставе «выраку» Вайсковай камісіі, якая прызнала ў мяне цяжкую хваробу, пайшоў «да цывіля», атрымаў рэнту па хваробе. А я праз пару месяцаў адчэнькаўся і так усюды ўладам падабаўся, што паклікалі мяне ў Верыфікацыйную камісію Акруговага праўлення ЗБоВіД (Саюз змагароў да свабоду і дэмакратыю) ды на суддзю Ганаровага суда там жа, ды на старшыню камісіі супрацоўніцтва з моладдзю ЗБоВіД і на намесніка старшыні гуртка ЗБоВіД № 3, а таксама члена міратворчай камісіі мікрараёна Тысячагоддзя ў Беластоку ды народнага суддзю-лаўніка Павятовага суда, а і першага сакратара партыйнай арганізацыі мікрараёна Тысячагоддзя. І на гэтым я выехаў у Калобжэг на спецконтрразведку... Калі працаваў нармальна, то вечарамі быў дома, а на пенсіі — і вечарамі не бываў дома, і ў контрразведцы ў Кашаліне — толькі за капейкі, якіх хапала на ежу. Быў яшчэ год у Чэхіі, ужо за звычайную зарплату, як для ўсіх работнікаў. Але за працу на Узбярэжжы ў Беластоку скрэслілі мяне са спісу сяброў партыі. Падвесці можна так: быў я на возе, быў і пад возам. Але ад таго часу, калі я быў на пенсіі, хтосьці можа сказаць, што адтуль я «дармаед» і мабыць ніхто. Але стоп, стоп! Яшчэ маю пра што расказаць :-). Нядаўна быў у мяне малады следапыт, журналіст Мацей Рацінеўскі. Пагаварылі мы пра родны мой Грабавец. А пакуль мы дайшлі да кораня размовы, паказваў я яму за некароткі час свае вынікі маёй пенсіянерскай дзейнасці, у выглядзе грамат, дыпломаў і медалёў і распавёў пра маю работу, таксама творчую. Так што амаль паўстагоддзя майго пенсіянерства я не сядзеў склаўшы рукі.

**Васіль ПЕТРУЧУК**

## Гайнаўскія вуліцы

Улады Гайнаўкі дбаюць пра гарадскія вуліцы. Штогод па меры фінансавых магчымасцей аднаўляюць маставыя на тых вуліцах, на якіх яшчэ не было асфальту або быў ён пакладзены даўно і маставыя патрабавалі рамонту ды будуюць — што цяпер прынялося — новыя веласіпедныя дарожкі.

Сёлета перабудавалі вуліцы Арміі Краёвай і Ястрабіную ды разбудавалі вуліцу Заячую. Пабудавалі прыгожую веласіпедную дарожку побач маставой на вуліцы Доўгірда. На вуліцах Грабовай, Мядзведжай і Саколяй паклалі асфальт. Яны атрымалі таксама дажджавую каналізацыю. Цяпер горад яшчэ больш папрыгажэў. У ім бяспечна ездзіць. На скрыжаваннях рухлівых вуліц ёсць кругавы рух або святлафоры. Прыдалося б яшчэ, між іншым, больш веласіпедных дарожак.

Зараз рыхтуюць тэхнічную дакументацыю на перабудову чарговых гарадскіх вуліц: Новаваршаўскай, Міцкевіча, Каханоўскага, Тувіма, Ядловай, Кляновай, Трускалкавай і Ціхай.

**(яц)**


Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)

www.e-zorka.pl

зорка

для дзяцей і моладзі

# На Дзяды нельга паліць у хаце!


Оля Яроцкая


Паэтычныя чытанні на магіле Уладзіміра Гайдука

Дзяды гэта дахрысціянскі абрад, які меў на мэце звязвацца з душамі продкаў. У славянскай традыцыі гэтае свята прыпадала ад трох да шасці разоў у год, у залежнасці ад месца.

Дзяды гэта збор рытуалаў, абрадаў і звычаяў, якія людзі спраўлялі ў адрас памерлых. Назва «дзяды» была вядомай у Беларусі, Украіне, Расіі. Самыя галоўныя — веснавыя і восеньскія дзяды.

У свята продкаў трэба адпаведна пачаставаць душы. Бяседы адбываліся ў хатах і на могілках. Людзі рыхтавалі мёд, кашу, хлеб, соль, яйкі ці куццю. Пасля яны заклікалі душы на пачастунак. Даўней у хату прыходзілі людзі, якія ахвяравалі малітву за памерлых. Гаспадары плацілі за такую малітву ядой, давалі яйкі, кашу, хлеб.

У час абрадаў нельга было спалохаць душы, напрыклад, голасна ўставаць ад стала, зараней прыбраць са стала яду, паліць у печы, ці шыць вопратку.

Хрысціянства хацела паслабіць язычаскія абрады, таму прысвойвала некаторыя элементы на свой грунт. Каталіцкі касцёл святкуе Усіх святых і Свята памерлых, якраз у час восеньскіх дзядоў. Праваслаўная царква за памерлых моліцца ў розным часе, напрыклад: у Мастаўлянах Гарадоцкай гміны захаваўся звычай дзядоў 14 лістапада — у свята Кузьмы і Дзям'яна. У Гарадку магілкі родных асвячаюць на свята Пакровы Божай Маці, 14 кастрычніка.

У Праваслаўнай царкве некалькі разоў у год выпадаюць бацькоўскія памінальныя суботы. Вясной за памерлых моляцца ў першую нядзелю пасля Вялікадня — на Провады ці Радуніцу. На Беларусі і ў Расіі захаваўся звычай прынашэння на магілкі яды. Сям'я рассцілае на магіле ручнік (або на століку, які спецыяльна дзеля гэтага абраду стаіць пры магілах), выкладае яду і супольна абедае. У нас, у Гарадку, захаваўся звычай прыносіць памерлым крашанкі на Вялікдзень.

У літаратуры памінальны абрад апісаў Адам Міцкевіч у драме «Дзяды». У сваіх творах прадставіў ён жыццё простых людзей на яго радзіме, значыць, на тэрыторыі сучаснай Беларусі.

*Аляксандра Яроцкая,*
*Гімназія ў Гарадку*

Маргарыта БУЧАК
ПШ у Міхалове

## Спакойна

Спакойна ідуць дзянёчкі,
Час плыве без спрэчкі,
Радасныя людзі чытаюць кніжкі,
Здаровыя бегаюць
без задышкі...
Спакойна трэба жыць,
Каб аб усім памятаць.

*Міра ЛУКША*

## Парэчка

*Чырвоная,*
*чорная парэчка,*
*чырвоная,*
*чорная смародзіна,*
*родам яны з-над рэчкі,*
*што Наш бок акаляе,*
*ад Таго боку наш аддзяляе,*
*адмысловым «смрадам»*
*кіпіць-палыхае,*
*што яе Калінаў мост перасякае,*
*да чырвані раскалены,*
*медным яшчэ іменаваны.*
*Парэчка-смародзіна,*
*здароўе дай,*
*на цёмны бераг*
*хвор выганяй*
*праз раку распаленую,*
*праз той мост калены:*
*як пайду па тому масту,*
*хвор нядобрую*
*за руку павяду.*
*Ты ідзі, хвор,*
*з цела Марыны,*
*ідзі, хвор,*
*на бераг той сіні.*
*Ягада-пахучка*
*хвор выжане,*
*вітаміны ўручыць,*
*ахалодзіць ад жару.*
*Усмешку выкліча*
*на нашых тварах.*

## УВАГА КОНКУРС!
## № 47-16

**Праз палі, масты, лясы**
**Лятуць словы-галасы.**
**Дзякуючы правадам,**
**Кажуць тут, а чуюць там.**
**Т......**
**(У. Мацвеенка)**

Разгадайце загадкі, адказы дашліце ў „Зорку" да 4 снежня 2016 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

## Загадкі з роднай хаткі

**Адказ на загадку № 44: карусель(*karuzela). Узнагароды, аўтаручкі, выйгралі Вікторыя Гаць з Бельска-Падляшскага, Магдалена Лемеш, Анна Кендысь, Аляксандра Бакун, Аляксандра Аніськевіч з КШ № 1 у Ганаўцы, Пецяр Вілюк, Віялета Смалюк з Арэшкава. Вішуем!**



Патрыцыя САКАЛОЎСКАЯ
ПШ у Міхалове

## Восень

Восеньскія лісты
павольна ападаюць,
На пустыя азалочаныя
паркавыя алеі,
Вецер ціхенька шэпча
цёплыя словы,
Толькі каштаны
нерухомыя ящчэ
У слабых далонях галін.

Наталля АЛЕКСЯЮК
Тапаляны, ПШ у Міхалове

## Поры года

Даспявае збожжа,
Ураджай збіраць нам трэба,
Просім — Бог паможа,
Сонца грэе нас слабенька,
Дрэвы лісце пагубілі,
Нечакана прыйшла восень,
Да зімы рыхтавацца трэба,
Намяце яна сняжынкі
Сваім белым крылом...
А тут вясна, і лета зноў,
Дрэвы зноў зялёныя,
Свежаю, буйнаю лістотай,
Птушкі зноў спяваюць,
Дзеткі зноў на падворку гуляюць.

# Асёл Хожы

*(казкі народаў Каўказа)*

У Хожы быў асёл і аднойчы ён прапаў. Адправіўся Хожа шукаць жывёлу. Шукаў цэлы дзень, шукаў, не знайшоў.

Наступіў ужо вечар, сонейка заходзіць. Хожа думае: «Як я знайду свайго асла ў такой цемры?». Тады ён стаў маліцца Усявышняму і абяцаў:

— Калі я знайду свайго асла, на другі дзень прадам яго за адзін рубель.

Не паспеў гэта вымавіць, бачыць, дарогай яго асёл пляцецца.

Шкада стала Хожы, што ён паабяцаўся прадаць жывёлу амаль дарма, але і не хацеў ашукаць Усявышняга. Раніцай пагнаў ён асла на базар, каб прадаць яго за адзін рубель. Але да асла ён прывязаў ката і водзіць іх па базары. Людзі глядзяць і пытаюць:

— Прадаеш?

— Ну, асла прадаю.

— За колькі?

— За адзін рубель.

— Ой, а чаму ж так танна?

— Ну, я абавязаны прысягай прадаць танна. Даў такое абяцанне Усявышняму, дык нельга тут хітрыць.

— Тады я пакупаю!

Хожа пагладзіў асла па спіне і кажа:

— Толькі я прадаю асла разам з гэтым катом. Іх нельга раздзяляць.

— А колькі за ката?

— Толькі дзевяноста дзевяць рублёў, — кажа Хожа.

Цэлы дзень хадзіў Хожа па базары і не знайшоў купца на асла з катом. Надыходзіць вечар. Сонейка заходзіць. Хожа звяртаецца да Усявышняга:

— Вось бачыш, Магутны, сонца ўжо заходзіць, яно сведка, што я не ашукаў Цябе. Не схацеў ніхто купіць майго асла за адзін рубель. Што мне рабіць? Відаць, трэба дамоў, вярнуцца.

Так і вярнуўся Хожа дахаты, разам з аслом.

**(пераклад з рускай мовы Ганны КАНДРАЦЮК)**

# Вершы Віктара Шведа



## Сшыткі Лідкі

Бабуля ў школу штодзень
Выпраўляла Лідку.
— Шануй, дзіцятка, сшыткі,
Каб чыстымі былі заўсёды.

— Ты дзіўная паскуда
І зусім неўпарадку.
А на чым жа я буду
Пісаць на занятках?

## Неамагчымае

Купіў тата сыну
Ранец у магазіне.
Сказаў: — Прынось нам скора
Поўны ранец пяцёрак.

— Не будзе такога цуду —
Адказаў сынок Мішка:
— А ў чым насіць я буду
Свае сшыткі і кніжкі?

## Замкі і палацы Беларусі

# СМАЛЯНЫ — БЕЛЫ КОВЕЛЬ!

Замак у Смалянах, хоць у руінах, выклікае незабыўнае ўражанне. Яго абрысы напамінаюць пра колішнюю славу і веліч месца. Ён узведзены ў 17 ст., па загадзе князя Сямёна Сангушкі-Ковельскага. Крэпасць была пабудавана на плане квадрата, з вежамі па баках. Уезд у сярэдзіну сцерагла салідная брама і сістэма вадзяных каналаў.

Смалянскі замак быў арыгінальны на свой спосаб. Ён спалучаў заходнееўрапейскія рысы архітэктуры і рысы беларускага народнага будаўніцтва. У сярэдзіне стаялі раскошны каміны і мэбля на паркеце. Перад смерцю князь Сангушка загадаў аздобіць сцены фрэскамі на рэлігійныя матывы. Апрача гэтага ён загадаў памаляваць звонку муры на белы колер.



Праз гэта замак успрымалі «як царкву» і называлі «Белы Ковель».

Як большасць беларускіх замкаў, быў ён пашкоджаны маскоўскімі войскамі ў час Паўночнай вайны. Пасля, у сярэдзіне XIX стагоддзя, замак набыў сенатар Сямёнаў. Расейскі палітык хацеў прадаць будынак на цэглу, але яму не пашанцавала. Паводле легенды, у канчатковым пашкоджанні крэпасці перашкодзілі фрэскі, намаляваныя таленавітым іканапісцам. Калі да іх дакраналіся рабочыя, у іх дзеравянелі рукі.

У Смалянах пахаваны Тамаш Зан — паэт-рамантык, вялікі сябра Адама Міцкевіча і прыхільнік Вялікага Княства Літоўскага. Замак найлепш аглядаць восенню.

**ЗОРКА**

# Польска-беларуская крыжаванка № 47–16

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 44:**

Бляск, го, блуза, блін, рынак, макака, мат, на, тэатр. Гук, бо, май, брат, яблык, сліна, кунак, кант, сад, ар.

Узнагароды, запісныя кніжкі, выйгралі **Дам'ян Карнілюк, Анна Белаказовіч, Мальвіна Маркевіч, Міхал Вардэцкі, Магдаліна Якубюк, Вікторыя Гаць** з Бельска-Падляшскага, **Зузанна Мішчук, Віялета Смалюк, Пётр Вілюк, Якуб Авярчук** з Арэшкава. Віншуем!

| | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Stodoła | Park | | Jan | | | Zawiniątko | Kula | | Silnik / Nuta | |
| | | | | Oksana / Ekran | | | | | | |
| | Skarb | | Okno | | Na / Ton | | Usta / Sosna | | | |
| | Kaktus | | | | | | | To | | |
| | | Korona drzewa | | | | | | Ar | | |
| | Orda / Prąd | | | | | | | Irka | Rok | Ala |
| Tron | | | | | Książka | | | | | |
| | | | | | | Orzeł | | | | |
| Ród / Kanapa | | | | | | | Ada | | | |

# Пра Ілью Грыбаўскага

„Ілья пастанавіў распачаць будаўніцтва святога горада аб назве „Вершалін", прапаведуючы, што падчас канца свету ўсе гарады загінуць, а „Вершалін" застанецца" — пісаў калісь у „Ніве" Васіль Баршчэўскі. І, сапраўды, застаўся. Паслядоўнікам ідэі грыбаўскага прарока стаў рэжысёр Пётр Тамашук. У сваім супрасльскім „Вершаліне" прапаведуе ён ужо дваццаць пяць гадоў. Яго прароцтва гэта высокага ўзроўню мастацтва. Падчас канца свету ўсе гарады загінуць, а яно застанецца.

Які лёс спаткаў святы горад прарока Ільі? Вернемся да пачаткаў дваццатага стагоддзя. „Быў 1925 год. Гарачае, сухое лета. Палявымі, пясчанымі дарогамі, ад вёскі да вёскі, узнімаючы хмары пылу, ішлі вялікія натоўпы людзей". Казалі, што царква з зямлі вырасла, што Ілья святы. Хацелі яго пабачыць, збавіцца ад грахоў, хвароб. З усіх вёсак туды цягнулі: з Бельшчыны, Гайнаўшчыны, Віленшчыны, Навагрудчыны. Бачыў іх, між іншым, народжаны ў 1921 годзе Юзаф Хмялеўскі. Жыхарам яго роднага Паўднёвага Вострава грыбаўская царква ў нічым не адрознівалася ад іншых, навакольных цэркваў. З вандруючых у экстазе пілігрымаў не смяяліся, зусім не было да смеху, успрымалі іх крыху як іншапланецян. У Грыбоўшчыну з'язджалі таксама вострaўскія і крынскія бацюшкі.

Мясцовым жылося тады надзвычай бедна. Лепш мелі толькі гаспадары з большай колькасцю зямлі. Хмялеўскія на сваіх чатырох гектарах харчаваліся, у асноўным, бульбай і кіслым малаком, некаторыя нават жабравалі.

Адзіным багацеем у наваколлі быў Ілья Клімовіч. Звычайны чалавек. Хмялеўскі сына Клімовічам хрысціў. Пасля вайны пераехалі яны недзе ў Расею. Юзаф запамятаў вопратку прарока: змістыя пінжак, бурая світка. Жыў у маленькай, крытай страхой хатцы, але меў шмат зямлі і шмат лесу. „Быў пісьменным, меў рэлігійныя кніжкі. Шмат чытаў. Аднак чытанне кніжак не палепшала жыцця Ільі Клімовіча. Таму ён пачаў задумвацца над тым, як стаць багатым. У 1906 годзе, узбіраўшы адпаведную суму грошай, выбраўся ехаць у далёкі Кранштат да „цудатворца" Іоана Ільіча Сергіева Кранштацкага, які тады лічыўся святым. Цудатворац Кранштацкі быў так добры, што нават паклапаціўся ў царскім урадзе аб дакуменце, у якім дазвалялася Ільі Грыбаўскаму збіраць даніны і ахвяры на пабудову царквы і наказвалася чыніць яму шырокую дапамогу". Грошы збіралі таксама вершалінскія апосталы: Пётр з Аўгустова, Павел з Пяньхоў, Бенедыкт Лобач з Лукі, Аляксандр Данілюк з Каменя, архангел Міхаіл Мінюк з Войшкаў.



Людзі распавядалі што Ілья шукаў грошай і ў гродзенскай кансісторыі. Пабудову завяршыў паспяхова ў 1926 годзе. Па цэлай Заходняй Беларусі пайшла вестка, што царква з зямлі паўстала. Сотні, тысячы людзей неслі туды іконы, святыя спевы, спецыяльна напісаны ў гонар прарока, ахвяраванні, у тым ліку грошы. Юзаф помніць як Ілья вёдрамі грошы з царквы выносіў. Ахвяраванні клалі па левай старане, пад іконай Божай Маці, хто дзесяць грошаў, хто пяць. Потым вазіў іх да жыда ў Крынкі пералічваць. Неўзабаве на другім баку дарогі пабудаваў вялікую хату. Супакой вершалінскага раю парушыў візіт архімандрыта Савы з Гародні. Угаворваў ён Ілью кінуць жонку Фёклу і паступіць у манахі. Юзаф прыйшоў з бацькам на пострыг. Шмат людзей, бацюшкоў і Ілья крыжом на зямлі ў царскіх варот ляжыць. Паднялі яго, адзелі па-манаску, а народ заспяваў „Радуйся, новы Іерусаліме". Сава крычаў: „Храм запечатаю!". Але даспявалі да канца. Пасля Сава аб'явіў новаспечанаму манаху, што грыбаўская царква разам з яе вялікімі грашыма належыць гродзенскай кансісторыі. „Прарок пастанавіў парваць з праваслаўным духавенствам і даць яму ўпартую барацьбу. З гэтай мэтай прарок публічна сарваў з сябе манаскую вопратку і патаптаў яе нагамі, а манахаў прысланых з Гродна прагнаў з грыбаўскага манастыра".

З гэтага моманту, паводле Юзафа Хмялеўскага, у Грыбоўшчыне запанаваў беспарадак. У карысць каталікоў, якія пераанялі царкву. Было гэта ў 1937 годзе. Бацька спадара Юзафа з чыстай цікавасці пайшоў на першую каталіцкую службу. Шмат чужых людзей, ксяндзоў, паліцыі. Праваслаўныя стаялі за плотам зусім бяссільныя. Царкоўныя іконы і харугвы павыносілі да Супронікавай хаты ў той жа Грыбоўшчыне. Бацюшка Серафім Самойлюк зрабіў з іх маленькі іканастасік і пачаў служыць. Вялікую, толькі што пабудаваную хату Ільі таксама ксяндзы занялі. Тады Ілья пачаў будаваць другую царкву ў тым жа лесе, непадалёк Студзёнкі. Фундаменты незакончанай царквы ў пачатках XXI стагоддзя выкупіла крынскае надлясніцтва. Тадышні надляснічы Вальдэмар Сярадзкі размаляваў на іх мусульманскія месяцы, зоркі Давіда, розныя крыжы і шмат чаго яшчэ. Захацеў, мабыць, стаць новым прарокам Вершаліна. З пяці хат, пабудаваных Ільёй для сектантаў, засталася толькі адна. Усе астатнія паразбіралі, адну за бальшавіцкай улады перанеслі ў Новы Востраў на школу. Насупраць царквы паставіў некалькі хат для сваіх сектантаў. Гэтымі хатамі свайго часу апекавалася Мішчукова са Студзёнкі. Іконы, якіх было там асабліва шмат, аддала, між іншым, у засцянскую царкву. Царкву прарока Ільі пачалі таксама будаваць у прынарвянскіх Целушках. Так было да 1939 года. Пачалася вайна. Па радыё абвясцілі ўваход саветаў. Пры Польшчы ў падкрынскіх вёсках дзейнічала шмат падпольных камуністаў. Вельмі яны абрадаваліся ўваходам сяброў. Зараз панадзявалі на рукі павязкі, узялі вінтоўкі, веласіпеды і абвясцілі сябе часовай паліцыяй. Першым чынам пагналі ксяндзоў з грыбаўскай царквы і аддалі яе бацюшкам. Пасля двух гадоў каталіцызму царква вярнулася ў праваслаўе. Ілья пабываў, якраз, у сваіх сектантаў у Бельску. Там яго злавілі. Людзі казалі, што бальшавікі паказвалі Ілью ў цэлай Расеі як бога Заходняй Беларусі.

Падчас канца свету ўсе гарады загінуць, застанецца толькі мастацтва...

**Іаанна ЧАБАН**

У тэксце выкарыстаны фрагменты артыкула Васіля Баршчэўскага «Дзейнасць „прарока" Ільі Грыбаўскага», «Ніва», 1956, № 23, с. 6.

Бельскі беларускі ліцэй

# Пачаткі ліцэя. Яраслаў Кастыцэвіч



Глыбокі след у маім былым, Пасынскім прыходзе аставілі бацюшкі Кастыцэвічы. Тры іх пакаленні (Адам, які сын Андрэй і ўнук Васіль — бацька Яраслава) доўгія гады служылі і кіравалі нашым прыходам. Некаторых з іх і магілкі засталіся тут, пры нашай царкве. Значыць яны хрысцілі, спавядалі, прычашчалі, вучылі, вянчалі і адпявалі некалькі пакаленняў нашых продкаў і ўсіх нашых прыхаджан. Але не толькі.

Глыбокі след аставілі Кастыцэвічы і ва ўсім нашым тутэйшым царкоўным жыцці і нашым школьніцтве. А часы былі тады вельмі ж няпростыя — рашаліся пытанні: «быць ці не быць нам праваслаўнымі», «быць ці не быць нам беларусамі». У рашэнні гэтых няпростых тады пытанняў вельмі важную ролю адыгралі бацюшкі Адам, Андрэй і Васіль Кастыцэвічы. Яны прычыніліся да ліквідацыі ў нас царкоўнай уніі, адраджэння і ўмацавання праваслаўя, пабудовы новых праваслаўных храмаў, развіцця школьніцтва, пракладання паломніцкіх шляхоў у мясцовыя слаўныя святыні, як Супрасль і Грабарка, так і найбольшую праваслаўную святыню — Кіеўска-Пячэрскую лаўру...

Глыбокі след у маім жыцці і ў жыцці майго пакалення аставіў Яраслаў Кастыцэвіч. Ён быў адным з актыўнейшых хадайнікаў і арганізатараў беларускага школьніцтва ў пасляваеннай Польшчы, настаўнікам, выхавацелем і дарадчыкам нашым. Ён быў арганізатарам і першым дырэктарам Беларускага ліцэя ў Бельску-Падляшскім. Давайце цяпер прыглянемся нялёгкай жыццёвай дарозе і працы на карысць свайго народа гэтага выдатнага дзеяча, арганізатара, педагога і чалавека.

Нарадзіўся Яраслаў Кастыцэвіч 20 чэрвеня 1896 года ў сям'і царкоўнага настаяцеля ў вёсцы Пасынкі. У 1906 годзе сям'я Кастыцэвічаў пераехала ў Трасцянку, дзе яго бацька Васіль нейкі час кіраваў царкоўна-настаўніцкай школай. У 1907 г. Кастыцэвічы пераехалі ў Бельск, дзе а. Васілій стаў настаяцелем Троіцкага сабора. Дзесьці ў той час і распачаў Яраслаў Кастыцэвіч навуку ў Гродзенскай гімназіі, якую аднак не далося яму там закончыць. Наступалі на нашае спакойнае Падляшша грозныя, суровыя часы — страшная вайна і яшчэ страшнейшае бежанства. Гродзенская гімназія была закрыта і Яраслаў, каб закончыць сярэднюю адукацыю, змушаны быў пераехаць у Белападляшскую гімназію. Закончыў яе, паступіў на юрыдычны факультэт Петраградскага ўніверсітэта. Якраз у той час і распачалося бежанства нашага народа. Раскінулі нашых бежанцаў па ўсёй велізарнай Расіі. Сям'я Кастыцэвічаў трапіла ў Кіеў. Студэнт Яраслаў хутка быў мабілізаваны і накіраваны на вучобу ў афіцэрскае вучылішча. А адтуль — на Каўказскі фронт. (На жаль, многія біяграфічныя весткі з гэтага і іншых перыядаў яго жыцця губляюцца і няма ад каго іх узяць). Далей вядома напрыклад, што пад канец 1917 года Яраслаў Кастыцэвіч апынуўся ў Кіеве і адтуль разам з сям'ёй вярнуўся ў Бельск. На пачатку 1918 года а. Васілій значыцца ўжо бельскім благачынным. А многія іншыя нашы бежанскія сем'і яшчэ доўга будуць блукацца па бездарожжах Расіі ці вяртацца на радзіму...



(Па ўсім аднак відаць, што малады Яраслаў Кастыцэвіч, хоць і стаў афіцэрам, але прымаць удзел у рэвалюцыі не хацеў, бо разумеў якой трагедыяй для Расіі з'яўляецца яна. Да таго ж ён быў глыбока веруючым чалавекам, каб прымаць удзел у братазабойчай вайне, на баку «белых» ці «чырвоных»).

Доўга і з цяжкасцямі, і з перашкодамі вярталіся нашы бежанцы дадому. А дома ні кала, ні двара. Іх гарады і сёлы былі папалены, разбураны, прыхаванае перад ад'ездам дабро разграблёнае, панадворкі і палеткі запушчаныя, зарослыя. У гарадах работы не хапала і нізкааплатная яна была. Яшчэ горшая сітуацыя была з праваслаўнай, яшчэ царскай, інтэлігенцыяй. Ім адпаведнай працы проста не давалі. Выжывай тут, жыві і разжывайся, як сам хочаш. І памаленьку выжывалі, жылі і разжываліся.

У падобнай сітуацыі апынуўся і Яраслаў Кастыцэвіч, хоць матэрыяльнае становішча яго ў той час было і не найгоршае. У 1923 годзе ён ажаніўся з Зінаідай Астасевіч і матэрыяльнае становішча яго яшчэ паправілася. У іх нарадзілася дачка Святлана...

Савецкая ўлада пратрымалася ў нас нядоўга (1939-1941), але Кастыцэвічам успела нарабіць яна крыўд многа. Спачатку новая ўлада прыняла яго на працу настаўніка рускай мовы ў вячэрняй школе. А ў 1941 годзе Яраслава Кастыцэвіча арыштавалі і пасадзілі ў турму, а жонку і дачку выслалі ў Сібір. Чаму арыштавалі і чаму выслалі? Бо чалавек ён — па савецкіх мерках — нябедны, святарскага паходжання і веруючы, ды і нядобразычлівых вакол было многа. Расстраляць яго ці выслаць у Сібір аднак на ўспелі — распачалася з фашыстамі вайна. І ён вярнуўся дадому...

Нямецкія акупацыйныя ўлады паставіліся да Я. Кастыцэвіча прыхільна, бо ён быў адукаваным, разумным і культурным чалавекам. А можа крыху і таму, што пабываў ён у кіпцюрах савецкага правасуддзя. Немцы дасканала ведалі, што гэта значыць. Відаць, таму і даверылі Я. Кастыцэвічу на нейкі час выконваць абавязкі бельскага войта. А гэта хоць у нейкай ступені дало яму магчымасць уплываць на актуальна важныя для нас справы ў часы нямецкай акупацыі, напрыклад, школьніцтва і дапамогу свайму народу. Так удалося Я. Кастыцэвічу пераканаць акупацыйныя ўлады ў патрэбе школ. І ўжо ў верасні 1941 года пачалі працаваць двухкласныя школы з беларускай і польскай мовамі навучання, а Я. Кастыцэвіча назначылі школьным інспектарам.

Праз войтаўскую канцылярыю праходзілі розныя пісьмы. Траплялія між іншым даносы на нашых людзей. Такія даносы былі вельмі небяспечнымі — маглі скатаваць чалавека, адправіць у канцлагер, а то і расстраляць яго і ўсю яго сям'ю. Так здарылася з нашым суседам Сямёнам Герасімюком. Хтосьці нашрайбаваў на яго данос немцам. Кастыцэвіч, не зважаючы на вялікую небяспеку, якая яму пагражала, пераняў данос і знішчыў яго, не перадаючы далей. Так уратаваў ён не аднаго чалавека...

*(працяг будзе)*

**Васіль САКОЎСКІ**

# Між Ваўкушанкай і Мядзведзіцай



■ Рыгалоўскі касцёл з боку Сёлка

З Бартнік паралельная да дзяржаўнай граніцы дарога вядзе на поўдзень у напрамку Сёлка. З гэтай асфальтоўкі распасціраецца панарама зялёнай травяністай поймы рэчкі Мядзведзіцы, за якою відаць гранічныя чырвона-белыя і зялёна-чырвоныя гранічныя слупы. Цераз Сёлка пралягае прамая шаша з Аўгустава ў напрамку Гродна. Гэта адна з прамяністых ад абласнога цэнтра дарог, якія злучалі любімы горад караля Баторыя з наваколлем. Дарэчы, не толькі Гродна з наваколлем, але і наваколля з Гроднам. Магчыма, што па гэтай дарозе перамяшчаліся нямецкія баявыя машыны ў пачатку трэцяй дэкады чэрвеня 1941 года. А край гэтай шашы наступалі пехацінцы Вермахта...

Вось там, недзе ад рэчкі Ваўкушанкі за наступаючымі ваякамі прасоўваўся і Хорст Слясіна, нямецкі радыёжурналіст на службе гітлераўскай прапаганды. З перадавымі войскамі дайшоў ён да Смаленска, адкуль вярнуўся ў Нямеччыну карміць сваіх слухачоў новымі перспектывамі раю на зямлі. У 1942 годзе выдаў ён у Дзюсельдорфе кнігу „Soldaten gegen Tod und Teufel" („Салдаты супраць смерці і д'ябла"), у якую ўвайшлі ягоныя рэпартажы з поля баёў. „Правадыр вядзе нас у бой. Адыходзіць нясцерпная няпэўнасць мінулых тыдняў. У нашых мажных руках і моцнай волі ход новай тысячагадовай сусветнай гісторыі. (...) Гэта будзе іншая вайна, іншая бітва, чым дагэтуль. Два светы схопяцца з сабою, паміж якімі няма ні мастоў, ні падабенства. Калі мы ў гэтым змаганні праявім слабасць, Германія прайграе не толькі вайну, але і будзе вытурана з шарэнгі народаў, а прамяністае святло еўрапейскай культуры прападзе ў моры крыві і слёз...". І далей адухаўлёнае апісанне: „Ясная паласа неба ўсё буйнее. Прыцемкі ночы змагаюцца з набіраючай сілу раніцай. З хвіліны на хвіліну становіцца відней. Першыя жаваранкі ўзвіваюцца ў неба і пачынаюць свае пошчакі. Раніца, такая ж, як і мільёны іншых, устае над зямлёю. Толькі нам гэта асаблівая раніца, нам, што бачым у ёй пачатак шляху, небяспечнага і неабсяжна доўгага, вядучага на ўсход. (...) Мы ствараем будучыню, дзеля гэтага мы народжаны і вывучаны. Перад намі ясная мэта і ні смерць, ні сам д'ябал не змогуць нас спыніць. Кароткі позірк на гадзіннік — яшчэ трыццаць хвілін чакання. Ледзь паўзучы секуднік можа давесці да шаленства. Час не можа прасоўвацца так павольна! (...) Перад намі рачулка Ваўкушанка, граніца між двума светамі. (...) Нягледзячы на навейшыя тэхнічныя сродкі вядзення вайны, яе паслядоўнасці будуць залежаць ад людзей. Жыццё маладых і мажных юнакоў стане насупраць сцен з бетону і сталі дзеля адкрыцця праходу ў гэтую агромністую і таемную краіну. Пабачым, ці ўстоіць савецкі гігант перад нястрымнай воляй (...) 22 чэрвеня, гадзіна 3.05. Пачынаецца бой...".

Неўзабаве, у той жа самы дзень, 22 чэрвеня 1941 года, урываюцца нямецкія ваякі і ў Сёлка. Хорст Слясіна згадвае і пра жыхароў ананімнай вёскі, што яны ставіліся недаверліва да носьбітаў новага парадку. Магчыма, што гэта было Сёлка, бо пазней у ваенным рэпартажы з'яўляецца вёска Конюхі, якая зараз за цяперашняй польска-беларускай граніцай побач аўгустаўска-гродзенскай шашы. А калі так... Нямецкія ваякі ачапілі Сёлка і побач шашы расстралялі 15 чалавек, вёску спалілі: 23 хаты, 45 гаспадарчых збудаванняў, 40 коней, 103 каровы, 340 свіней... А зачэпкай для гэтага злачынства былі нямецкія страты ад супраціўлення савецкіх байцоў.

„Сонечнае кола коціцца па Савецкім Саюзе — у полымі і крыві нараджаецца свет, які нясе нашым сынам прастору і мір дзеля іх шчаслівай будучыні. (...) Смерць і д'ябал леглі за намі — новыя смерці і пякельныя выпрабаванні не палохаюць нас. Перамога за намі!" — так канчаецца кніга гітлераўскага прапагандыста... Край Сёлка, побач даўняй аўгустаўска-гродзенскай шашы, на месцы злачынства, абгароджаны помнік з крыжом...

Сёлка прылягае да вёскі Рыгалоўкі, якая доўгі час была мясцовым грамадскім цэнтрам. Тут школьны будынак, аднак слядоў прысутнасці непаседлівага дзіцячага народу вакол яго не відаць. Насупраць „райскі садок" пры мясцовай плябаніі. Гэта незвычайны ландшафцік з адмысловымі дрэвамі ды агароднымі і аздобнымі раслінамі. А за агародам і плябаніяй касцёл вельмі арыгінальнага дызайну. А дызайн той — гэта своеасаблівае шво паміж Усходам і Захадам, своеасаблівы памежны слуп...

Чаму так сталася, інфармуе стэнд перад касцёлам: „Obecny kościół w 1901 roku rozpoczęto budować jako prawosławną cerkiew murowaną, ponieważ poprzednia cerkiew drewniana jeszcze unicka była tak zniszczona, że nie można było odprawiać Mszy Świętej w zimie. Wmurowanie kamienia węgielnego w fundament odbyło się 22 maja 1901 roku i przybyły na tę uroczystość trzy pielgrzymki z parafii prawosławnych będących w sąsiedztwie: Lipska, Hołynki i Łabna. Budowa cerkwi w Rygałówce została ukończona w bardzo krótkim czasie, tzn. w październiku 1902 roku i konsekrowana przez archimandryta Ewlogejma. Świątynia została wzniesiona zgodnie z tradycją prawosławną na planie krzyża greckiego z wieżą na planie ośmiokąta, od południa wpisaną w plan korpusu, przykryto ją kilkoma kopułami".

Неўзабаве пасля ўзвядзення рыгалоўскай царквы, у 1905 годзе, расійскі імператар адмяніў рэлігійныя абмежаванні і мясцовыя вернікі, якія яшчэ трыццаць гадоў раней былі ўніятамі, масава адракліся ад праваслаўнага абраду і перайшлі ў каталіцтва. У 1919 годзе была ў Рыгалоўцы ўстаноўлена каталіцкая парафія. А следам гэтага, у 1927 годзе быў перабудаваны і храмавы будынак. Працэс перабудовы ранейшых праваслаўных цэркваў, якіх ранейшыя ўніяцкія вернікі перайшлі ў каталіцтва, адбываўся па-рознаму. У Гадышэве, для прыкладу, цалкам новая царква была знесена і на яе месцы пабудаваны зусім новы касцёл. У Рыгалоўцы змена была не так карэнная: сцены асталіся, толькі верх быў пазбаўлены візантыйскага характару. Фрэскі ўсярэдзіне былі замаляваны белай фарбай, зліквідаваны іканастас...

Стэнд дае цікавае тлумачэнне этымалогіі назвы вёскі: „Nazwa wsi Rygałówka najprawdopodobniej została przerobiona z litewskiej nazwy złożonej *Riga — lauk — is*, od litewskiej nazwy *ringe*, co oznacza *zakręt, zygzak* i wyrazu *laukas* w znaczeniu *pole, łąka*. Czyli łąka o zygzakowatym, wygiętym kształcie, taka interpretacja jest najodpowiedniejsza, ponieważ i dziś przy miejscowości Rygałówka da się zaobserwować łąkę nad rzeką Niedźwiedzicą o wygiętym zygzakowatym kształcie". Калі так, дык з майго асабістага пункту гледжання назва Рыгалоўкі выводзіцца з таго самага этымалагічнага ствала, што і назва Ляўкова, ад слова *laukas*. Адно каля Ляўкова сенажаці не надта пакрыўленыя, бо калі б было інакш — хто ведае — можа і мая вёска таксама называлася б Рыгалоўкай... Ёсць і іншая адметнасць у самой *laukas* — насупраць Старога Ляўкова яна зарасла да непраходнасці, каля Рыгалоўкі старанна скошаная...

*Геаграфічны слоўнік Каралеўства Польскага* з канца XIX стагоддзя: „Rygałówka, wieś nad rzeką, Niedzwiedzicą (dopł. Biebrzy), pow. augustowski, gm. Kuryanki, par. Rygałówka. Odl. od Augustowa 42 wiorsty, posiada cerkiew par. drewnianą, 24 domy, 149 mieszkańców. Parafią i kościół erygowali Wojnowie i Sołohubowie, niewiadomo kiedy. (...) Do par. należała filia w Ponarlicy".




■ Помнік каля Сёлка

За Мядзведзіцай вёска Далінчаны, якой этымалогія таксама ад рачной поймы, і Ракавічы, якой этымалогія таксама ад рачной прыроды...

Кіруюся на поўдзень, у бок Бобры, у бок Сідры, Саколкі. Па дарозе назва мясцовасці Панарліца. Ліпскі гісторык Уладзіслаў Чарнецкі: „Za najstarszą wieś w tej okolicy uchodzi wymierająca dzisiaj Ponarlica, założona ok 1450 r. przez nieznanego rusińskiego bojara. Potem odkupił Ponarlicę inny bojar Sieńko Iwanowicz, a w dokumencie z 1498 r. Wielki Książę Litewski Aleksander potwierdził nadanie Ponarlicy jego zięciowi Makarowi Iwanowiczowi. Odtąd Ponarlica należała do jego potomków Makarowiczów, później Paszkowskich, Syruciów, Buchowieckich, a na końcu właścicielem, już tylko folwarku Ponarlica, został w latach 30-tych XX wieku J. Skokowski. Po nim folwark rozparcelowano, ziemię przydzielono rolnikom, a Ponarlica dzisiaj w oczach marnieje". *Геаграфічны слоўнік Каралеўства Польскага*: „Ponarlica folwark i wieś nad rzeką Niedźwiedzicą, dopł. Biebrzy, pow. augustowski, gm. Petropawłowsk, par. Lipsk, odl. od Augustowa 42 wiorsty; folwark ma gorzelnię, 4 domy., 24 mieszkańców.; wieś 8 domów., 73 mieszkańców. W 1827 r. 7 domów., 41 mieszkańców. W lesie znajduje się kaplica prawosł., filia par. Rygałówka (o 3 wiorsty), wybudowana przez Buchowieckich". Даведнік на парафіяльным стэндзе ў Рыгалоўцы не згадвае пра капліцу ў Панарліцы, значыць — яе ўжо няма. Філіяльная капліца Рыгалоўскай парафіі толькі ў Лясных Багатырах, узведзеная ў 1983-1985 гадах.

А што ж гэта за гміна Петрапаўлаўск? Яшчэ раз Уладзіслаў Чарнецкі: „Z Powstaniem Styczniowym związana jest pewna legenda wywodząca nazwę zbiorczej gminy wiejskiej zlokalizowanej w Lipsku. Mówi ona o tym, że po upadku Powstania, w ramach najcięższych represji, w pobliżu lipskiego cmentarza, na gościńcu do Kurianki, stanęła szubienica, gdzie wykonywano wyroki śmierci na powstańcach złapanych z bronią w ręku. Katem, który zakładał powróz na szyję skazańców był niejaki Petro Pawłow. Stąd też, aby ostatecznie upokorzyć miatieżnikow, imieniem Petro Pawłowa nazwano nowo powołaną gminę i nadano jej nazwę gminy petropawłowskiej. Historycy twierdzą jednak, że na pewno jest to tylko legenda...".

Яшчэ раз *Слоўнік*: „Petropawłowsk, gmina w pow. augustowskim, st. poczt. Lipsk, ma 3031 mk., rozległości 17660 mr. (...) Nazwa tej gminy została jej urzędownie nadana już po przeprowadzeniu nowego podziału Królestwa na powiaty i gminy w 1867 r." ...

**Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

*Пошукі і знаходкі*

# Выкладчыкі і студэнты беларускай філіі гімназіі імя Славацкага



■ Беларуская філія гімназіі Славацкага

У 1937-1939 гадах Віленская беларуская гімназія знаходзілася ў будынку насупраць касцёла Святога Духа па вуліцы Дамініканскай у Вільні, які належаў дзяржаўнай польскай гімназіі імя Юліюша Славацкага. З 1932 года беларуская навучальная ўстанова была яе філіялам, а ў 1939-1941 гадах яна мела статус прагімназіі, затым няпоўнай сярэдняй школы. Дзейнічала да чэрвеня 1944 года, а калі ў Вільню прыйшла савецкая ўлада, яе ліквідавалі.

Гэты здымак, які сёння публікуецца ў «Ніве» ўпершыню, зроблены якраз у 1938 годзе, калі Віленская беларуская гімназія была філіялам дзяржаўнай гімназіі імя Юліюша Славацкага. Імёны ўсіх выкладчыкаў і студэнтаў расшыфраваць не ўдалося, але прозвішчы амаль усіх беларусаў на гэтым здымку мне вядомыя. У першым радзе сядзяць выкладчыкі. Гэта (злева направа) Егер, Нарудская, Барыс Кіт (Кіта), дырэктар Мікола Анцукевіч, Касінская, Аляксандр Кавалевіч, Вольга Русак, Пётр Шчасны.

У другім радзе (стаяць злева направа): студэнты М. Лётка, Васіль Новік, Еўдакія Казёл (Казлова), А. Беласік, Марыя Друцька, невядомы, Я. Карэтнікава, А. Таўлай (брат паэта Валянціна Таўлая).

У трэцім радзе (злева направа): В. Дук, Барыс Сладкоўскі, А. Бразоўскі, Я. Бузук, Ю. Мацук, Ю. Чатырка.

З усіх віленскіх беларусаў, якія адлюстраваны на гэтым здымку, жыве ў Германіі толькі Барыс Кіт, якому сёлета споўнілася 105 гадоў з дня нараджэння. Лёс астатніх студэнтаў Віленскай беларускай гімназіі склаўся па-рознаму. Але ўсе яны да апошняга дня жыцця заставаліся шчырымі беларусамі і патрыётамі. Пра кожнага з іх можна сабраць тысячы матэрыялаў і напісаць добрыя і цікавыя кнігі. Бо яшчэ жывуць іх дзеці, унукі і праўнукі. Але калі і хто гэта будзе рабіць?..

❖Сяргей ЧЫГРЫН

# http://menu.by

У Беларусі няшмат разнастайных кавярняў і рэстаранаў, якія ў сваім меню маюць беларускамоўную версію. А з тых, што маюць, адзінкі змяшчаюць у інтэрнэце інфармацыю пра сябе па-беларуску.

Пару гадоў таму ў Беларусі ўзнік грамадска-культурны рух за адраджэнне беларускай мовы. Паўсталі разнастайныя курсы, такія як „Мова ці кава", „Мова нанова". Яны з'яўляюцца свайго роду ўвасабленнем жадання часткі беларускага грамадства захаваць беларушчыну, нягледзячы на яе суцэльнае падаўленне з боку ўлады цягам апошніх двух дзясяткаў гадоў. І гэты рух знайшоў водгук у тых, хто з павагай ставіцца да беларускай мовы, нават не будучы беларусам.

Адным з прыкладаў такога паважлівага стаўлення можна назваць дзеянні мінскага бізнесоўца-армяніна Вагана Керабяна, бізнес якога тычыцца дастаўкі ежы з розных кавярняў і рэстаранаў Мінска замоўнікам.

Напачатку восені прадпрымальнік дапамог курсам „Мова нанова" з грашыма на крэслы і лаўкі для слухачоў. За гэта актывісты моўнага руху зрабілі для Керабяна беларускамоўную старонку яго сайта www.menu.by.

„Я лічу, што кожны сайт у Беларусі мусіць мець беларускую версію, таму што гэта родная мова людзей, якія тут жывуць. Зрабіць годную беларускамоўную версію нам дапамаглі курсы „Мова нанова", і я вельмі задаволены, што яна ў нас працуе ад самага пачатку. Калі я даведаўся, што курсам патрэбна дапамога, вырашыў абавязкова дапамагчы, бо яны імкнуцца захаваць беларускую мову", — цытуе прадпрымальніка-армяніна газета „Наша ніва". У сваю чаргу дырэктар курсаў Глеб Лабадзенка адзначае, што Керабян не толькі дапамог „Мове нанова", але і свой бізнес адразу пачаў па-беларуску.

Калі нейкі мінчук альбо госць беларускай сталіцы захоча замовіць ежу сабе ў гатэльны нумар альбо ў кватэру, то праз вышэйазначаны сайт гэта можна зрабіць па-беларуску. На галоўнай старонцы сайта-меню месяцца назвы і лагатыпы 33 рэстаранаў з разнастайнымі кухнямі. Калі клікнуць мышкай на адну з такіх карцінак, то перад інтэрнэт-карыстальнікам з'яўляюцца выявы страў, іх назвы і кошты. Згодна пададзенай на сайце інфармацыі, дастаўка ежы бясплатная для кліента. Пра гэты распавядаецца ў рубрыцы „Навіны".

Рубрыка „Як замовіць?" дакладна апісвае працэдуру замаўлення і аплаты свайго сняданку, абеду ці вячэры, якія мусяць каштаваць не менш за 10 новых беларускіх рублёў. Таксама там адзначаецца, што замова выконваецца цягам 40-50 хвілін, у залежнасці ад часу гатавання страў і адлегласці ад рэстарана да месца дастаўкі.

Зразумела, што нованароджаны бізнес патрабуе супрацоўнікаў, у прыватнасці кур'ера і аператара „call-цэнтра". Веданне беларускай мовы апошнім з'яўляецца абавязковым вымаганнем для патэнцыйнага кандыдата.

Дарэчы, гэты харчова-даставачны сайт мае і дадатак для смартфона, што, канешне, вельмі зручна асабліва для тых, хто хоча нешта паесці, але знаходзіцца далёка ад кавярні ці рэстарана.

Паводле інфармацыі на сайце, у хуткім часе колькасць аб'ектаў харчавання, з якіх кліенты могуць замовіць сабе ежу, бліжэйшым часам павялічыцца. Варта адзначыць, што сайт мае таксама рускую і англійскую моўныя версіі.

❖Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ

**Дата з Календара**

### Яшчэ адзін загублены талент

# 115 гадоў з дня нараджэння Міхася Зарэцкага

Беларускі пісьменнік Міхась Зарэцкі (сапраўднае прозвішча Касянкоў) нарадзіўся 20 лістапада 1901 г. у вёсцы Высокі Гарадзец Сенненскага павета (цяпер Талачынскі раён Віцебскай вобласці). Паходзіў з сям'і вясковага царкоўнага дзяка. Дзяцінства прайшло ў в. Зарэчча пад Шкловам — адсюль паходжанне псеўданіма. Бацька Міхася, Яўхім Касянкоў, паходзіў з бедных сялян, меў няпросты характар і ставіўся востра да начальства і крытычна да жыцця, значна ўплываў на фармаванне светапогляду сына. Маці да замужжа спявала ў царкоўным хоры. З 10-гадовага ўзросту Зарэцкі чатыры гады вучыўся ў Аршанскім духоўным вучылішчы, потым — у Магілёўскай духоўнай семінарыі (у 1917 г. пакінуў яе пасля двух гадоў вучобы). Далей каля паўгода працаваў перапісчыкам у паўвайсковай часці. Разам з гэтай часцю выязджаў у Арлоўскую губерню Расеі. Калі вярнуўся дамоў, уладкаваўся царкоўным вартаўніком, каб хоць неяк дапамагчы сям'і, якая жыла ў нястачы. Доўгімі зімовымі вечарамі шмат чытаў.

З лютага 1919 г. Міхась Зарэцкі настаўнічаў на Магілёўшчыне ў адной з вясковых школ, потым прызначаны загадчыкам валаснога аддзела народнай асветы. Пачаўся перыяд, як казаў сам пісьменнік, „свядомай грамадскай работы". У 1920-1927 гг. Зарэцкі — палітпрацаўнік Чырвонай Арміі.

Публікавацца пачаў у 1922 г. Дэбютаваў апавяданнем у газеце „Савецкая Беларусь". Аўтар зборнікаў апавяданняў „У віры жыцця", „Пела вясна", „Пад сонцам", „42 дакументы і Двое Жвіроўскіх", „На чыгунцы", „Ракавыя жаронцы", апавядання „Бацькаў сын", аповесці „Голы звер", раманаў „Сцежкі-дарожкі", „Вязьмо", кніжак нарысаў „Падарожжа на новую зямлю", „Лісты ад знаёмага". Аўтар п'ес „Сымон Карызна", „Ная", кінасцэнарыя „Пачатак шчасця". Пераклаў на беларускую мову „Прыгоды ўдалага вакі Швейка ў сусветную вайну" Ярaслава Гашака. Выступаў і як крытык.

З 1924 г. — сябра літаратурнага аб'яднання „Маладняк", уваходзіў у яго Цэнтральнае бюро. У 1926-1927 гг. рэдагаваў часопіс „Маладняк". У 1927 г. стаў адным з ініцыятараў утварэння новага літаб'яднання „Полымя". У жніўні-кастрычніку 1927 г. у складзе дэлегацыі беларускіх літаратараў наведаў Латвію, Чэхаславаччыну, Нямеччыну, Францыю. Сябраваў з Янкам Купалам і Якубам Коласам. Адзін з ініцыятараў тэатральнай дыскусіі ў лістападзе 1928 г. Выступы Міхася Зарэцкага ў друку былі расцэнены як праявы нацыянал-дэмакратызму. Разам з Андрэем Александровічам і Алесем Дударом ён заявіў пра выхад з Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (публікацыяў „Савецкай Беларусі" 4.12.1928 г.). У 1929 г. выключаны з ВКП(б). Да лістапада 1936 г. працаваў загадчыкам аддзела літаратуры і мастацтва Беларускай акадэміі навук.

Арыштаваны Зарэцкі 3 лістапада 1936 г. у Мінску. Засуджаны НКВД у кастрычніку 1937 г. як „актыўны член нацыянал-фашысцкай тэрарыстычнай арганізацыі" да расстрэлу з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны ноччу 29 кастрычніка ў ліку іншых 22-х пісьменнікаў і навукоўцаў. У яго засталіся жонка, якую выслалі ў канцлагер (сядзела там разам з Ларысай Геніюш) і двое дзяцей.

Рэабілітаваны ў 1957 г. У 1975 г. выйшаў зборнік выбраных апавяданняў „Пачатак шчасця", у 1989-1991 гг. — збор твораў у чатырох тамах. Многія рукапісы Зарэцкага загінулі, у прыватнасці, гістарычная драма „Рагнеда", працяг рамана „Крывічы". Таварыства беларускай мовы прапаноўвала назваць яго імем вуліцу ў Шклове і бібліятэку, улады пакуль гэтага не зрабілі.

❖Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

## Напісанае пяром не высячэш тапаром




Мне семдзесят гадоў. Мая інфармацыя пра даўнюю гістарычную падзею п.з. „Пра савецкіх салдат, загінуўшых на Срэбрнай горцы”, была апублікавана ў 41-м нумары „Нівы” ад 9 кастрычніка 2016 года. Я вельмі ўдзячны публіцысту Аляксандру Вярбіцкаму за тое, што звярнуў ён увагу на зусім не маю памылку ў маім матэрыяле і такой жа самай дашукаўся і ў даведніку айца Рыгора Сасны. Дата смерці забітага гітлераўцамі святара Яўгенія Кульчыцкага, высечаная на ягоным намагільніку на чыжоўскім цвінтары — 21.06.1941 — няпраўдзівая. Бо немцы не маглі быць у Чыжах у той дзень напярэдадні пачатку нямецкай атакі на СССР. Факт астаецца фактам. Невядома, чаму ўдава, матушка Кацярына Кульчыцкая, ні асірочаныя дочкі Вера і Люся, якім было каля 15-17 гадоў, ніколі не прыкмецілі памылкі... Цікава, хто цяпер і як выправіць памылку на эпітафіі, што на жалезным крыжы на цвінтары.

**Тэкст і фота Яна МІХАЛЮКА, Чыжы.**

P.S. На партале амерыканскага архіва NARA ёсць рапарт нямецкай 137 пяхотнай дывізіі пра бітву 25 чэрвеня 1941 года на Срэбрнай горцы побач вёскі Чыжы. Расейцы пад камандаваннем маёра Дунаева былі акружаны нямецкімі 448 пяхотным і 137 артылерыйскім палкамі. Савецкая часць была разбіта. Загінула пяцьсот байцоў, а 150 трапіла ў палон. Немцы знішчылі 18 танкаў і захапілі артылерыйскую батарэю.

Я.М.

## Пажарнікі з Маліннік

22 кастрычніка ў Малінніках адбылося асвячэнне пажарнага аўтамабіля для мясцовай каманды пажарнікаў. Святкаванні пачаліся ў 15 гадзін у царкве св. Гаўрыіла Заблудаўскага. У мерапрыемстве ўдзельнічалі: брыгадзір Вальдэмар Кудрэвіч — павятовы камендант пажарнай аховы ў Бельску Падляшскім, намеснік каменданта старшы брыгадзір Ян Шкода, начальнік пажарна-тушыльнай часці ў Бельску-Падляшскім старшы брыгадзір Ежы Тамчук, адстаўны камендант пажарнай аховы ў Бельску-Падляшскім Ян Барташук, старшыня Рады гміны ў Орлі Аляксандр Клін, старшыня Павятовага аддзялення Саза добраахвотных пажарных каманд Рэчы Паспалітай Міраслаў Бало, прадстаўнікі гміны і пажарных каманд з тэрыторыі Арлянскай гміны ды жыхары вёскі. Пасля літургіі ўдзельнікі набажэнства падаліся на пляцоўку пры царкве, дзе святары а.а. Міраслаў Чурак і Марк Якімюк пасвяцілі пажарны аўтамабіль. З адпаведнымі сітуацыі прамовамі і віншаваннямі выступілі прадстаўнікі пажарнікаў і гміннай адміністрацыі. Вартасць пажарнага аўтамабіля — 369 984 зл. Сродкі паступілі з бюджэту гміны.

## Новая дарога

У кастрычніку была здадзена ў карыстанне новая дарога з асфальтавым насцілам Орля — Парцава даўжынёй 3,7 км. Вартасць задачы — 1 мільён 300 тысяч злотых. Сродкі на дарожную інвестыцыю паступілі з Павятовага староства ў Бельску-Падляшскім і бюджэту гміны. Новая інвестыцыя станоўча паўплывае на дарожную інфраструктуру Арлянскай гміны. **(ус)**

## Вышываны ручнік — незвычайны

23 кастрычніка гэтага года ў Галерэі імя Тамары Саланевіч у Нараўцы Гайнаўскага павета падсумавалі выкананне праекта «Вышыванне рэгіянальных ручнікоў у пушчанскіх вёсках Нараўчанскай гміны». Мерапрыемства ладзіла Агратурыстычнае таварыства «Белавежская пушча» ў Нараўцы. З гэтай нагоды адкрылі выстаўку з вышыванымі ручнікамі ўдзельніц майстар-класаў. Прыехалі жыхары з дзесяці вёсак. Сямнаццаць жанчын атрымала пасведчанні заканчэння вышывальніцкіх курсаў: Ніна Валкавыцкая, Міраславаа Балтрамюк, Крыстына Паскробка, Галіна Прычыніч, Альжбета Матысюк, Галіна Вяжхоўская, Ірэна Ігнацюк, Галіна Панькоўская, Людміла Здаsноўская, Альжбета Кунцэвіч, Марыя Целушэцкая, Лідзія Харкевіч, Лена Харкевіч, Тамара Зубрыцкая, Марыя Козак, Крыстына Лапацюк і Анна Засім.



Нараўчанскае агратурыстычнае таварыства «Белавежская пушча» выдала каляровы буклет пра 36 агратурыстычных кватэр у Нараўчанскай гміне з картай, на якой зазначаны вёскі, у якіх дзейнічаюць агракватэры. У спецыяльным раздзеле распавядаецца пра вышываны ручнік і яго ролю ў жыцці чалавека. За маёй памяці (мне мінула 70 гадоў) ручнікі вышывалі дзяўчаты і замужнія жанчыны ў доўгія зімовыя вечары ў беларускіх вёсках на Падляшшы.

Гафтаваныя ручнікі былі ў кожнай хаце, у якой жыла беларуская сям'я. Былі яны аздобай г.зв. святога кута абавязкова з іконай у доме. Святыя куты ёсць і зараз, між іншым, у многіх хатах у маёй роднай вёсцы Новае Ляўкова. У маёй хаце таксама. Варта адзначыць, што ручнік спадарожнічаў чалавеку ў важных момантах усяго яго жыцця — ад нараджэння аж да смерці. Пра яго спяваюць песні і пішуць вершы. Прыгожыя вершы напісалі паэты Нараўчанскай гміны. Прыгажыя вышываныя ручнікі можна зараз агледзець на спецыяльнай выстаўцы ў Галерэі імя Тамары Саланевіч у Нараўцы.

**Тэкст і фота Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА**

## 20.11 — 26.11

**(22.03. — 20.04.)** З 21.11. зоркі падкінуць табе мноства энергіі. 22-26.11. не змарнуй выдатнай нагоды для заробку. Можаш быць крыху стомлены пад канец тыдня. З 25.11. знойдзеш час на хобі і развой зацікаўленняў. На працы можаш знайсці кагосьці, з кім варта паразмаўляць і пасля работы. Будзь разважлівым за рулём і пры спорце.

**(21.04. — 21.05.)** Да 21.11. гуляй добра! 22-26.11. твае сябры пазнаёмяць цябе з кімсьці, хто на табе акажа вялікае ўражанне. Хвалі свайго партнёра. Вельмі добра з сябрамі, калі ты з красавіка — таксама з далёкіх краёў. На працы супрацоўнічай, разам дасягняце больш. Эксперыментуй у кухні.

**(22.05. — 22.06.)** Наладзіш карысныя знаёмствы. 21-23.11. шыкуйся на радасныя весткі! Запросяць цябе на вяселле ці хрысціны. 22-24.11. можа дарвацца да цябе ахвота пабыць у самоце, але не будзе табе гэта дадзена! З 25.11. тое, з чым не даваў ты сабе рады, вырашыцца само па сабе. З 26.11. будзеш вучыць іншых. Не параўноўвай сябе з іншымі, будзеш шчаслівейшым!

**(23.06. — 23.07.)** 21-23.11. лёгка будзе табе наладзіць знаёмствы і саюзы. Найцяжэйшы момант гэтага месяца ў пары: 23-27.11. Можа наступіць канфрантацыя ўявы з рэальнасцю. На працы падглядвай майстроў. Але не дазволь, каб шэф накінуў на цябе абавязкі іншых. Клапаціся пра ўласныя інтарэсы! Старайся не нудзіцца, бывай сярод людзей і варушыся.

**(24.07. — 23.08.)** Каб здабыць аб'ект сваіх захапленняў, мусіш паказаць, што ты варты даверу. 21-23.11. можаш сустрэць асобу, якой кантакты акажуцца для цябе вельмі прыдатнымі. 22-24.11. можаш пасеяць зерне, якое праз нейкі час выдасць вельмі багаты плён! Можа быць гэта першая цаглінка пад пабудову ўласнай імперыі або курсы пра тое, як зарабіць мільён за паўгода! З 25.11. будзеш мець шанц перайсці ў іншую фірму або пачаць працу на сваім.

**(24.08. — 23.09.)** 19-26.11. твой высілак можа пайсці на нявартую ўвагі працу. 22-24.11. можаш адчуваць сябе прыгнечаным і абмежаваным. 22-25.11. можаш трапіць у нейкія файныя абдымкі, усё ж нявартыя пачуццяў. Дома манітаруй развой сітуацыі. Не запрашай дахаты злодзея! Не трымай дома скарбаў і больш грошай. Лепш уплаці грошы ў банк, а каштоўнасці схавай у сейф.

**(24.09. — 23.10.)** 19-25.11. сітуацыя прымусіць цябе да цяжкага рашэння. 22-26.11. паявяцца вакол цябе фальшывыя сябры і падлізнікі. Калі ты з трэцяй дэкады, на працы дзейнічай асабліва асцярожна, пакуль не ведаеш, на чым стаіш. Не ангажуйся ў персанальныя канфлікты. Найбольшае «бранне» на рынку працы маюць вераснёвыя Шалі. 21-23.11. можаш мець менш на рахунку, але гэтыя грошы зробяць месца іншым, большым, якія наплывуць.

**(24.10. — 22.11.)** 19-21.11. не адмаўляйся ад сватання — не пашкадуеш! 19-25.11. не наступі камусьці моцнаму на мазоль! Неспадзяваныя грошы можаш выйграць або атрымаць 25-27.11. Часам будзе пад вецер, але не паддавайся. 19-22.11. Скарпіён, які лёгка трактаваў свайго партнёра, пабачыць, што таму ўжо можа залежыць на кімсьці іншым. Скарпіёны з фірмамі: дакладна праверце свае паперы, дапільнуйце тэрміны і заказы, бо пасля не адкруціце.

**(23.11. — 22.12.)** Твая форма яшчэ слабаватая да 21.11. 22-24.11. задзівіш блізкіх сваёй спеласцю і толкам, а шэфа сур'ёзным падыходам да працы. Але 19-25.11. можа табе не хапіць сілы на змаганне з ворагамі. Венера, усё ж, дапаможа ўвесці табе план ашчаджання. 21-23.11. адсвежыш старыя знаёмствы і сяброўствы.

**(23.12. — 20.01.)** 23-26.11. узрасце твая смеласць у кантактах з іншым полам. Хаця 19-25.11. прыйдзецца табе пераносіць невыгоды і абмежаванні. На працы 22-24.11. зможаш урэшце ўзяцца за новую тэму; можаш таксама пазмагацца за лепшыя ўмовы, павышэнне. Задбай і пра рэкламу сваёй асобы і вырабаў.

**(21.01. — 19.02.)** Дробныя турботы да 22.11. Будзеш адважны, самастойны — дасягнеш больш чым звычайна. У пары больш размаўляй. Павяліч актыўнасць у інтарэсах. Шукай спакою духу і розуму.

**(20.02. — 21.03.)** Можаш разлічваць на дапамогу і фактычную падтрымку 23-25.11. Нагоды для прыемных сустрэч з мілымі людзьмі. Могуць закончыцца сувязі, якія раздзяляе адлегласць. У дзеяннях хаос і недакладнасць не перашкодзяць толькі Рыбам-мастакам, іншыя мусяць усё строга планаваць. Не высылай сваіх Сі-Ві — насі іх асабіста, тады трапяць на адпаведны стол. Ашчадна раскладвай сілы, у выпадку хваробы адразу кладзіся ў ложак!

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

## Адгаданка

### Шыфраграма

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — беларускую пагаворку.

1. каштоўны камень, з якога брыльянт = 7 _ 8 _ 5 _ 21 _ 20 _;
2. вялікі камень = 22 _ 17 _ 16 _ 14 _ 18 _;
3. злы дух у... ядлоўцавай гарэлцы = 2 _ 24 _ 4 _ 3 _;
4. жыла ў райскім садзе = 19 _ 13 _ 1 _;
5. выробленая тонкая скура з аксамітнай паверхняй = 15 _ 11 _ 12 _ 26 _ 25 _;
6. дванаццаціна капы = 6 _ 23 _ 10 _ 9 _.

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
| | | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
| | | | | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 |
| 18 | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 | 24 | 25 | 26 |

**(ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 44 нумара**

Панчоха, сайт, палена, сюіта, тэарэтык, гадзіна, калгас, салон, Крк, вырай, дажджынка.

Рашэнне: **Не наракай на люстэрка калі нос крывы**.

Кніжную ўзнагароду высылаем **Лявону Федаруку** з Рыбал.

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA”, „KOLPORTER”, „RUCH” — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy” — kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach 7[00] – 18[00].
**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 200 egz.

# У палескай глыбінцы (62)



Невір. Мост на Прыпяці

Невір смела можна назначыць чарадзейнай сталіцай Палесся. Тут ніхто не сумняваўся ў існаванні чорнай і белай магіі. Даследчыца Ірына Ігнаценка ў кнізе «Народная медыцына ўкраінцаў сярэдняга Палесся: традыцыя і сучаснасць»* бясспрэчна сцвярджае, што ў час апошніх палявых доследаў па лячэбнай магіі ні аднаго разу этнографы не аднатавалі прысутнасці «чорнай біблії». Мне аднак, амаль з ходу, пашанцавала пачуць магічныя рэцэпты ад невірскіх старажылак, скапіраваных з «чорнай кнігі». Праўда, у параўнанні з мясцовымі чарамі, прапановы «чорнай кнігі», хоць моцна акропленыя крывёй, здаваліся бляднымі. Кніга магла падштурхнуць да дзеяння адно прагавітых і хворых на славу навічкоў. У Невіры не надта верылі ў чары, прачытаныя з кніжкі, і шчыра спачувалі чарадзеям з дурнога выпадку. Тут самы істотны быў вусны пераказ, які вандраваў з пакалення ў пакаленне, часам прыходзіў ва сне да абранай асобы. Дзеда Флярка, які ведаў як зрабіць камусьці *наведу*, шанавалі і нават спачувалі яго горкай долі. Калі заўчасна загінула яго трох сыноў, людзі шапталі: «Гэта заплата нячыстаму». Няма дыму без агню. Каб валодаць *наведай*, трэба парадніцца з цёмнымі сіламі, плаціць ім даніну. З другога боку асоба фармату дзеда Флярка ў натуральны спосаб, бо наклікаhistы страхам, сцерагла адвечных звычаяў, на якіх абапіраўся патрыярхальны лад. Нідзе ў народзе я не пачула дрэннага слова пра «ведуноў». А пра шаптух, што робяць *добро*, прыпрыпяцкі народ гаварыў з найбольшай пашанай, цеплынёй і прызнаннем.

* * *

Раіса Крат, асоба надзвычай рацыянальная, прыводзіць сямейны расказ пра здарэнне на полі. Палеткі яе дзеда межавалі з загонамі Флярка. Абодва гаспадары выйшлі касіць жыта адначасна. Дзед маёй субяседніцы наняў яшчэ жнеек з суседняга Радустова, каб хутчэй справіцца. Ён касіў касой, а жанчыны падбіралі збожжа, высцілалі ў пакосы, каб прасушылася. Павязаць жыта ў снапы ды саставіць у ляшкі аставілі на канец работы. Карацей, яны скасілі намнога большы кусок жыта, чым іх кансерватыўны сусед Флярко. Гэты трымаўся адвечнай чарговасці. Яго жнеі жалі сярпамі, зразу вязалі і ставілі ў ляшкі. Пасля ўсе селі абедаць. Дзед спадарыні Раісы з любасцю зірнуў на зжатыя палоскі. Яшчэ крыху напругі і жыта будзе скошана...

— Раптам, невядома адкуль, загаласілі ў паветры шчаняты, — спадарыня Раіса сцішае голас. — Іх пранізлівы плач нахлынуў з паветра. Людзі з трывогай зірнулі на пачарнелае неба. Спачатку ўзняўся дзікі вецер. Завіравалі пакосы. Вецер згарнуў скошаныя сцёблы жыта, абярнуў са свістам некалькі раз кругаля, як у дзікім танцы. З гэтага зрабіўся смерч, які схапіў зжатыя сцёблы і раскінуў іх па шырокім наваколлі...

Хоць мая субяседніца з дыстанцыяй успрымала магічныя з'явы, ад пачутага стала трывожна на душы. Падобную з'яву на Падляшшы назвалі чортавым вяселлем. Скамечанае дзікім ветрам збожжа ці сена людзі абыходзілі шырокім кругам. Яго лічылі шкодным для здароўя і пакідалі на полі...

Тады, на полі, ніхто не думаў сварыцца з Флярком, які, быццам нічога не здарылася, далей спажываў абед са сваёй сям'ёй. Яго снапкі прыгожа стаялі ў шарэнзе, як пад лінейку.

— А нашы сядзелі і плакалі, — дадае Раіса Крат, — столькі дабра і працы пайшло з ветрам.

* * *

Я схадзіла на Прыпяць, каб яшчэ раз зірнуць на мясціну і праветрыць мазгі. Якраз выпаў самы гарачы дзень года, тэрмометр паказваў трыццаць чатыры градусы цяпла ў цяні. Раней я запісала магічныя рэцэпты ад бабы Іры, якая расказала метады як прычараваць хлапца. Здабыча здавалася клапатлівай, яна напамінала мяшок сыкучых гадзюк, якіх найлепш патапіць у смале. Што з гэтым зрабіць? Праўда, палешукі не верылі ў чары, запісаныя на паперы. Я аднак верыла ў чарадзейныя схільнасці падляшскіх жанчынак. Як будзе выглядаць наш панадворак пасля публікацыі невірскіх любоўных рэцэптаў? Ці застанецца хоць адзін цвярозы мужык? Магчыма, прамовіў адвечны спалох. Магія не існуе без перасякання сусветаў. Каб разбірацца ў гэтай далікатнай матэрыі, неабходны талент і вопыт.



Раіса Крат з дачкамі Ярынай і Іванкай

Невір з перспектывы ракі напамінаў качэўны, замаскіраваны абоз на стэпе.

Асфальтавая дарога, пракладзеная паміж джунгляў трыснягу, здавалася часовай кладкай. На няскошаныя балоты вярнуўся вербалоз. Дзікая сцяна зелені ўрывалася на панадворкі, абрастала платы і раўчукі. Здавалася, яна неўзабаве заглушыць двары, разам з газонамі і *кятамі*. Траву перасталі касіць разам з канцом калгаснай гаспадаркі. Раней кожны гаспадар быў абавязаны пачысціць назначаны кусок даліны, для чыстай касметыкі. Хатняя жывёла, узгадаваная на прамысловых кармах, не хацела ўжо есці калючай асакі, трыснягу і рачной мяты. Сена рыхтавалі на асушаных балотах і адразу звозілі на панадворак. Мала хто клапаціўся касметыкай даліны.

Ля самой ракі віднеў абжыты фрагмент узбярэжжа. Карціна напамінала ідылію. На зялёным мурагу пасвіліся каровы і незлічоныя статкі гусей. Хоць усю ўвагу прыцягваў салідны мост, які ў палескім краявідзе явіўся цудам інжынерыі. Мост разам з дарогай пабудавалі ў сямідзясятыя гады. Да гэтай пары Невір напамінаў недаступны востраў, ахінуты *Заліскім, Бельскім* і *Вэлікім* балотамі і лесам. Тубыльцы, як тысячу гадоў раней, дабіраліся ў свет толькі вядомымі сабе лабірынтамі сярод балот або плылі чаўном па рацэ і прытоках. Спадарыня Крат прыгадала, як выглядала ў гады «да дарогі» яе падарожжа ў Луцк. Там штудзіравала педагогіку. Першы адрэзак дарогі явіўся быццам з дагістарычных часоў. Яна, маладзенькая студэнтка, басанож прабівалася дзесяць кіламетраў праз балоты ў бліжэйшае сяло. Перад Вялікай Глушай, куды даязджаў аўтобус, мыла ногі і абувала туфлі.

— І тады я ўжо бачыла белы свет, — кажа.

Дарога ў Луцк займала цэлы дзень. Зараз праз Невір едуць аўтобусы ў Любашоў, Камень-Кашырскі і Луцк.

* * *

Чарадзейныя практыкі, лячэбная медыцына, *наведы* і вышыванкі з заказіраванай магіяй здаваліся нечым звычайным у Невіры. Самі вяскоўцы таксама здаліся звычайнымі, ветлівымі, непаседамі. Якраз выпаў сезон на сенаванне. У дарозе на рэчку штораз міналі фурманкі з *моложаем*, — так называюць тут атаву. Гаспадары першыя кідалі на прывітанне *«добры!»*. Усе, дарослыя і дзеці, здаваліся надта запрацаванымі. Я мела пачуццё дыскамфорту, калі адцягвала спадарыню Крат ад работы. Дырэктарка з саракагадовым стажам працы ў школе, як усе мясцовыя людзі, клапацілася за выжыванне сям'і. Яна гадавала сорак індыкоў, карову, парасятак.

— Раней, такога, каб настаўнік гадаваў кароў ці свіней, нават у галаву не прыходзіла, — адзначае мая субяседніца, — а зараз без гэтага немагчыма пракарміцца.

У голасе спадарыні Крат я не пачула наракання. Я была ўдзячна лёсу, што па хісткіх слядах старажытных павер'яў і метафізічных практык супраўваджае мяне інтэлігентная, жыццелюбівая жанчына. Другой жанчынай, якая прыблізіць тэму, будзе згаданая Ірына Ігнаценка. Украінская даследчыца ў сваёй кнізе засяроджваецца на лячэбных замовах палешукоў з чарнобыльскай зоны. Палявыя доследы і апытанні прыводзяць да канкрэтных высноў. Замовы і таемныя веды, гэта «дар». Яго звычайна перадаюць з пакалення ў пакаленне сярод бліжэйшай сям'і. Надта важная чарговасць па нараджэнні і талент абранай асобы. Людзі вераць, што замовы дапамагаюць толькі ад першага або апошняга дзіцяці. Кандыдат у знахары павінен запамятаць замову са слыху, з першага разу. Запісаныя або скапіраваныя з папулярных даведнікаў «малітвы» не дапамагаюць. Хутчэй за ўсё яны могуць пашкодзіць самазванай чарадзейцы. Іншае абмежаванне датычыць узросту. Дар нельга перадаваць старэйшым за сябе, у такім выпадку ён лічыўся згубленым, растрачаным. Ад жанчын патрабавалася, каб практыкавалі ў старэйшым узросце, ужо пасля заканчэння менструацыйнага цыкла. Парушэнне апошняй справы часта прыводзіла да сямейных няшчасцяў і хвароб дзяцей.

Палешукі надта талерантна ставіліся да людзей, якія рабілі зло, накідалі ўрокі, наведы, хваробы, адбіралі малако ў кароў... Верылі, што шкодныя чары дзейнічаюць незалежна ад людзей, мімавольна. Іх носьбітамі часта былі калекі, пакрыўджаныя лёсам людзі. Чорныя здольнасці маглі зафундаваць ім бацькі, якія парушылі законы сексуальнай актыўнасці. Каб засцерагчы сям'ю ад вядзьмарства, нельга было займацца сексам у першы і апошні тыдзень Вялікага посту і посныя святы...

(працяг будзе)

**Фота і тэкст Ганны КАНДРАЦЮК**

* Iryna Ihnatenko, *Ukrainian folk medicine of central Polissya: traditions and modernity (based upon etnographic field materials)*, Intellectual Book, Kyiv 2015.

ISSN 0546-1960